● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

7 мая 1998 г. чацвер, № 97 (23448)



# ЗВЯЗДА

### ХАКЕЙ

## Вершы ВАРЫВОНЧЫКА, музыка ГЛІНКІ: «МЫ — У ВАСЬМЁРЦЫ МАЦНЕЙШЫХ!»

**Чэмпіянат свету па хакею, які зараз праходзіць у Швейцарыі, прабачце за банальныя словы, будзе залатымі літарамі ўпісаны ў летапіс беларускага хакея. Наша хакейная зборная — у васьмёрцы мацнейшых каманд свету!**

Пасля пераможнага матча над японцамі — 6:4 галоўны трэнер нашай каманды Анатоль Варывончык заявіў на прэс-канферэнцыі, што, нягледзячы на лік, гэта была самая дрэнная гульня яго вучняў на гэтым чэмпіянаце. Яшчэ б! Павёўшы ў ліку 6:1, нашы хлопцы затым так «паплылі», што ўшчэнт прайгралі апошні перыяд — 0:2. Абарона беларусаў нагадвала самае сапраўднае сіта, а выйшаўшы ў трэцяй 20-хвілінцы на замену японскі варатар, а па сумяшчальніцтву самы сапраўдны самурай, Дасці Імоо быццам загіпнатызаваў беларускіх нападаючых і свае вароты — шайба некалькі разоў трапляла ў штангу, мітусілася на лініі, аднак у сетку не ішла, хоць ты плач. Плакаць, вядома, не плакалі, аднак засмуціцца было ад чаго, бо пасля гэтай гульні на лёд выходзілі зборныя Чэхіі і Германіі. Апошнія пры ўмове перамогі над чэхамі з лікам 4:2, 5:3, 7:5... і г. д. прымушалі беларусаў цешыцца толькі трэцім месцам. І тое, што алімпійскія чэмпіёны прайграюць па гульні, мала хто верыў, аднак чуткі аб тым, што напярэдадні матча нямецкі бок прапанаваў «вырашыць» чэшскім хакеістам далікатнае пытанне цаной паўмільёна швейцарскіх франкаў (недзе каля 350 тысяч долараў), толькі падлівала масла ў агонь. Зрэшты, галоўны трэнер чэшскай зборнай легендарны Іван Глінка заўсёды славіўся сваёй прынцыповасцю як на пляцоўцы, так і ў жыцці — Імя не прадаецца.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

### КРЫМІНАЛ

## ПРАЦЯГВАЕЦЦА ЛАНЦУЖОК АРЫШТАЎ НА МЫТНІ

**Апошнім часам пытанні павышэння эфектыўнасці дзейнасці мытных органаў усё часцей знаходзяцца ў полі зроку дзяржаўных органаў улады і кіравання. Узмацніўся нагляд за захаваннем законнасці ў рабоце супрацоўнікаў мытняў і з боку органаў пракуратуры. Нягледзячы на значныя перамены да лепшага ў выкананні мытнага і іншага заканадаўства, праблем там яшчэ больш чым дастаткова.**

Матэрыялы пракурорскіх праверак і крымінальных спраў, расследаваных следчымі пракуратуры, КДБ і МУС, сведчаць, што па-ранейшаму ствараюцца і ўдасканальваюцца карумпіраваныя сувязі крымінальных элементаў з супрацоўнікамі мытных органаў. Як правіла, пры такім «зліцці» ўтвараецца і даволі магутная падтрымка з боку асобных чыноўнікаў ўладных і праваахоўных структур, пераадолець якую 'пракуратуры і следчым органам бывае даволі цяжка.

Пры гэтым трэба адзначыць, што сур'ёзнай праверкай дзейнасці мытні пракуратура практычна пачала займацца з 1997 года. Мінскай транспартнай пракуратурай была арганізавана праверка выканання заканадаўства ў мытні «Мінск-2», размешчанай на тэрыторыі дзяржаўнага прадпрыемства «Нацыянальны аэрапорт «Мінск».

Пры аналізе і зверцы дакументаў мытнага афармлення грузаў і пералічэння адпаведных грошай на разліковы рахунак мытні правяраючым пракурорам было ўстаноўлена, што на адрас мінскага камерцыйнага прадпрыемства паступіў з Галандыі груз — 18 тысяч літраў піва. Па дакументах за растаможванне быццам бы спагнана мытных плацяжоў і збораў на 422 млн. рублёў. Аднак такіх грошай фактычна на рахунак не паступіла, і пасля ўзбуджэння пракуратурай крымінальнай справы было ўстаноўлена, што і дагавор на пастаўку піва фіктыўны, і плацежнае даручэнне на пералічэнне грошай за растаможванне грузаў падробленае з дапамогай камп'ютэрнай тэхнікі.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

### ПА ТОЙ БОК ПРЫЛАЎКА

## Куды падзеліся вараныя каўбасы?

Канешне, пасля гэтых нататкаў вінаватымі ва ўсіх бедах зноў могуць быць журналісты. Жывуць сабе людзі спакойна, нічога іх не хвалюе, а тут знойдзецца нейкі пісака, узніме ажыятаж, узбаламуціць усіх, глядзіш — чарговы дэфіцыт. Прынамсі, такое ўражанне склалася (ды ці першы раз) у аўтара гэтых радкоў пасля размоў з работнікамі Міністэрства гандлю адносна забяспечанасці пакупнікоў асноўнымі прадуктамі харчавання. Па прыклад далёка хадзіць не трэба: апошнім часам у сталіцы назіраецца ўстойлівы дэфіцыт свініны, мяса птушкі, вараных каўбас. Прычым, калі колькі часу таму ў продажы ўсё ж быў сякі-такі асартымент, дык зараз паліцы многіх магазінаў нярэдка сустракаюць чысцінёй.

Пазаўчора карэспандэнт газеты наведаў усе бліжэйшыя да Дома прэсы крамы. Вынік: свініна была толькі ў адным з іх, танная вараная каўбаса паўсюдна цалкам адсутнічала. На паліцах свабодна ляжалі толькі сыравэнджаныя каўбасы па цане ад 142 да 283 тысяч рублёў за кілаграм. Натуральна, ахвочых браць іх было няшмат, што пацвярджала адсутнасць чэргаў і даволі заляжалы выгляд прадукцыі. Выключэннем, бадай, стаў толькі магазін «Русінічка» Баранавіцкай птушкафабрыкі, што на вуліцы Кузьмы Чорнага. Тут выбар быў сапраўды унушальны: ад сасісак да каўбас з вяндлінай. Але ж і чарга была, як у савецкія часы: у аддзел было не ўбіцца.

Учора зазірнуў туды яшчэ раз: на паліцах была толькі курыная дыетычная каўбаса па 87.300 рублёў. Нязменнай засталася толькі чарга. Такая ж вялікая, як і напярэдадні.

Нешта падобнае назіраецца зараз і на Камароўцы. Калі на пачатку мая гэта яшчэ можна было спісаць на святы, дык на што спішаш цяпер? Дзе даюць вараную каўбасу ці сасіскі — да прылаўкаў-халадзільнікаў не падысці. З цяжкасцю толькі ў адным месцы змог разгледзець цэннікі: сасіскі — 91.200 рублёў, каўбаса — 108.00 рублёў за кілаграм...

По словах намесніка начальніка ўпраўлення арганізацыі спажывецкага рынку харчовых тавараў Міністэрства гандлю Любові Язэпчык, у першым квартале ў цэлым па краіне рэалізацыя мяса да ўзроўню аналагічнага перыяду мінулага года склала 116 працэнтаў, каўбасных вырабаў — 118 працэнтаў. У той жа Мінск штодзень паступае не меней як 100 тон каўбас. Але, як падкрэсліла Любоў Фёдараўна, амаль уся яна — з іншых абласцей, таму здараюцца перабоі ў пастаўках у пэўныя магазіны.

Наогул, выраб вараных каўбас для мясакамбінатаў эканамічна нявыгадны, бо яе вытворчасць не ўкладваецца ў цэнавыя абмежаванні. Камбінатам зручней вырабляць сыравэнджаную прадукцыю, на якую не ўстанаўліваюцца гранічныя цэны. Нагадаю: якраз такія каўбасы зараз і пераважаюць у мінскіх крамах.

Што да больш танных гатункаў, дык, напрыклад, як высветліў па тэлефоне ў прысутнасці карэспандэнта «Звязды» прэс-сакратар міністра гандлю Вячаслаў Лявонаў, у Заводскім райхарчгандлі сталіцы, сапраўды, попыт на вараныя каўбасы не задавальняецца на 70—80 працэнтаў. Райхарчгандаль сам спрабуе шукаць выйсце, у прыватнасці, шляхам заключэння дагавораў з прамысловымі вытворцамі на пастаўку патрэбнай прадукцыі.

Існуе і ранейшая праблема з пастаўкамі ў гандаль свініны. Як паведаміла Любоў Язэпчык, толькі за чатыры месяцы з пачатку года ў цэлым па краіне прамысловасць недапаставіла 4,7 тысячы тон свініны. Зразумела, гэта адбіваецца, у рэшце рэшт, на паліцах магазінаў. Хаця, як заўважылі ў Міністэрстве гандлю, тое, што вараных каўбас няма ў Мінску, не азначае, што гэтай прадукцыі няма ў іншых рэгіёнах. Маўляў, адышлі тыя часы, калі сталіца забяспечвалася ўсім патрэбным па вышэйшаму разраду. Мінск — горад з амаль двухмільённым насельніцтвам, таму пэўных праблем пазбегнуць цяжка. Атрымліваецца, зараз лепш жыць далей ад вялікага горада? Што ж, мо хоць там людзям у крамах шанцуе больш...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**




Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

### *Увага! Прамая лінія*

**На вашы пытанні адкажа міністр сацыяльнай абароны Вольга Браніславаўна ДАРГЕЛЬ.**

Наўрад ці ёсць сэнс шмат гаварыць аб тым, што зараз даводзіцца цяжка амаль усім. Але чым у бліжэйшы час можа падтрымаць дзяржава пенсіянераў і інвалідаў, былых вайскоўцаў і сем'і, што выхоўваюць дзяцей — словам тых, хто ўжо ці яшчэ не ў стане забяспечыць сабе вартае жыццё ўласнымі сіламі? Пытанне, безумоўна, няпростае. Тым не менш, адказы трэба шукаць менавіта сёння, і рабіць гэта лепш разам. Таму 15 мая рэдакцыя «Звязды» мае намер запрасіць усіх чытачоў газеты да ўдзелу ў «прамой лініі» з міністрам сацыяльнай абароны Вольгай Браніславаўнай Даргель. У гэты дзень з 12 да 13 гадзін аб усім, што хвалюе, вы можаце пагутарыць з міністрам па тэлефонах: **(0-17) 232-38-21, 232-38-92.**

***Папярэднія пытанні прымаюцца штодня па тэлефоне (0-17) 268-27-57.***



## ХРАМ БУДЗЕ ЖЫЦЬ

**Дзякуй Богу, дачакаліся мы той пары, калі адбываецца вяртанне людзей да Царквы: адраджаюцца прыходы і манастыры, арганізуюцца нядзельныя школы.**

**Не стала выключэннем і Свята-Петрапаўлаўская царква, што ў Сенніцы Мінскага раёна.**

**Яшчэ зусім нядаўна, гады два таму, увесь храм стаяў у будаўнічых рыштаваннях, і прыходзілася толькі здагадвацца, што тут аднаўляецца, бо на на царкву гэты будынак быў зусім непадобны, настолькі ён быў разбураны. На сённяшні дзень тут адноўлена і працуе адна частка царквы.**

**Гісторыю стварэння храма нам расказаў яго настаяцель айцец Барыс.**

У 1854 годзе было выбрана месца пад храм, прыкінулі, на колькі прыхаджан яго разлічваць, запрасілі архітэктара Г. Меера, які і спраектаваў будынак царквы. У 1861 годзе праект быў зацверджаны, і ў тым жа годзе пачалося будаўніцтва, якое поўнасцю было завершанага ў 1865 годзе. Будаўнічыя работы вёў мінскі купец Аляксандр Свешнікаў.

— Храм пабудаваны ў цудоўным месцы, — гаворыць айцец Барыс. — На ўзгорку, ля самай шашы, што вядзе ў Слуцк. Некалі адгэтуль было далёка да горада, сёння — рукой падаць, амаль побач з кальцавой дарогай. Пры выездзе з горада памаліся, падарожнік, папрасі ў Бога благаславення ў добры шлях, а пры ўездзе храм зноў жа сустракае першым, і кожны з палёгкай уздыхне: «Дзякуй Богу, я ўжо дома».

Храм, як і ўся наша гісторыя, — працягвае далей айцец Барыс, — прайшоў свой гістарычны шлях. У 30-я гады быў закрыты. Усе іконы, у тым ліку і пазалочаныя, уся маёмасць былі вывезены і непадалёку

(Заканчэнне на 3-й стар.)

## ЛЁН ПАВІНЕН ЗНОЎ СТАЦЬ ВІЗІТНАЙ КАРТКАЙ БЕЛАРУСІ

Дажджлівае надвор'е ўнесла карэктывы ў праграму рэспубліканскай нарады па льнаводству, якая адбылася 6 мая ў Віцебскай вобласці. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў, дэлегацыі абласцей абмежавалі азнаямленчую частку праграмы семінара наведваннем Дубровенскага льнозавода і фабрыкі № 3 Аршанскага льнокамбіната.

Гэтыя два звяны тэхналагічнага ланцужка «поле — льнозавод — тэкстыльны камбінат — швейная фабрыка — спажывец» адыгрываюць вельмі важную ролю. Перапрацоўчыя прадпрыемствы бяруць на сябе асноўны цяжар, «выцягваючы» да кандыцыі прадукцыю іншы раз нават з няякаснай сыравіны. У Дуброўне ўдзельнікі семінара пазнаёміліся з работай прадпрыемства, агледзелі выстаўку прызначаных для льнаводаў сельскагаспадарчых машын вытворчасці «Бабруйскаграмаша». У Оршы ў цэнтры ўвагі была фабрыка № 3 ільнокамбіната, дзе выпрацоўваецца прадукцыя, здольная паспяхова канкурыраваць на сусветным рынку. Выкарыстоўваючы да 50 працэнтаў валакна, якое выпрацоўваецца ў рэспубліцы, выпускае практычна ўсе магчымыя віды тканін бытавога і тэхнічнага прызначэння. Аб'ём экспарту бытавых тканін у далёкае замежжа за апошнія два гады падвоіўся і склаў 67 працэнтаў у агульным аб'ёме іх выпуску. Перспектывы ў гэтым плане ў прадпрыемства вялікія. Праблема толькі ў пастаўках якаснага лёну, заявіў генеральны дырэктар ільнокамбіната Валерый Шаткоў, каменціруючы гасцям убачанае на фабрыцы.

На вырашэнні гэтай праблемы і была засяроджана ўвага ўдзельнікаў пленарнага пасяджэння, праведзенага ў другой палове дня. З дакладам выступіў міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Іван Шакола. Адбыўся ўсебаковы абмен думкамі па вывяду галіны са стану, які быў вызначаны ў заключным выступленні Аляксандра Лукашэнкі як крызісны. Удзельнікі нарады прыйшлі да высновы, што неабходна прыняць мэтавую дзяржаўную праграму, пераўтварыўшы галіновую праграму «Лён» у рэспубліканскую. (Справаздача аб нарадзе будзе апублікавана.)

Візіт на Віцебшчыну прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка выкарыстаў для ажыццяўлення яшчэ адной важнай місіі. Ён уручыў дзяржаўныя ўзнагароды вялікай групе работнікаў вобласці. Сярод адзначаных дзяржавай за добрасумленную працу і вялікі ўклад у эканамічнае і сацыяльна-культурнае развіццё рэгіёна, рэспублікі і работнікі Аршанскага льнокамбіната.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

*Орша.*

## ГЕНАДЗЬ СЕЛЯЗНЁЎ І АНАТОЛЬ МАЛАФЕЕЎ СУСТРЭЛІСЯ З ГРАМАДСКАСЦЮ ВНУ ГОМЕЛЯ

На рэдкасць шчырая размова адбылася ў кіраўнікоў Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі Генадзя Селязнёва і Анатоля Малафеева з грамадскасцю ВНУ горада Гомеля.

Старшыня Парламенцкага Сходу Саюза Генадзь Селязнёў адзначыў, што прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыкладае вялікія намаганні для згуртавання дзвюх брацкіх дзяржаў. «Калі б такая ж воля была і з другога боку, — сказаў ён, — то рамкі Саюза былі б сёння значна шырэйшыя». Імкненне расіян жыць у саюзе з Беларуссю, паводле яго слоў, бясспрэчнае. Ён таксама адзначыў, што калі б быў праведзены рэферэндум, то да 70 працэнтаў жыхароў Расійскай Федэрацыі прагаласавалі б за адзінства з Беларуссю.

На сустрэчы ішла размова і аб чарнобыльскай трагедыі. Расійскія парламентарыі запэўнілі, што Беларусь можа разлічваць на дапамогу ў вырашэнні гэтай праблемы. У прыватнасці, плануецца агульнымі намаганнямі дабудаваць цэнтр радыяцыйнай медыцыны ў Гомелі. З асаблівай цеплынёй гаварыў Генадзь Селязнёў аб гамяльчанах, якія мужна пераносяць цяжкасці наступстваў чарнобыльскай аварыі. «Мы ўбачылі, што горад жыве і працуе, што няма ніякай панікі і ніхто нікуды не збіраецца ад'язджаць. Для многіх расійскіх дэпутатаў гэта стала сапраўдным адкрыццём», — сказаў ён.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## ЗРУХІ ДА ЛЕПШАГА ЁСЦЬ. АЛЕ НЕ ДЛЯ БЮДЖЭТНІКАЎ

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, за апошні месяц узровень агульнай запазычанасці па зарплаце знізіўся ў цэлым па Беларусі прыкладна ў 1,2 раза і дасягнуў адзнакі 832,5 млрд. рублёў. Адметна, што даўгі зменшыліся адразу ва ўсіх рэгіёнах краіны, за выключэннем сталіцы.

Разам з тым пакуль казаць аб нейкіх зрухах да лепшага выпадае хіба што ў адносінах да вытворчай сферы. У параўнанні з данымі на канец сакавіка зараз можна канстатаваць, што даўгі па будаўніцтву зменшыліся амаль у 2 разы, па прамысловасці — у 1,5, па аўтатранспарту і саўгасах — у 1,2, па калгасах — у 1,1 раза. Аднак, з іншага боку, менавіта ў красавіку значна пагоршыліся справы бюджэтнікаў і, скажам, запазычанасць па заробках у ахове здароўя узрасла з 5,8 да 7,6 млрд., культуры — з 0,1 да 1,8 млрд., па адукацыі — з 1,8 да 22,8 млрд. рублёў. Дзеля справядлівасці варта усё ж заўважыць, што большая частка даўгоў бюджэтнікаў прыпадае на апошні месяц.

**Сяргей ГРЫБ.**

## БЕЛАРУСЫ СТАРЭЮЦЬ І ВЫМІРАЮЦЬ?

Беларускія навукоўцы падлічылі, што за апошнюю пяцігодку сярэдняя працягласць жыцця нашых суайчыннікаў скарацілася на 4 гады.

Дэмаграфічная сітуацыя ў рэспубліцы радыкальна змянілася менавіта ў нашым стагоддзі. Калі яшчэ на пачатку стагоддзя беларусы ў сярэднім жылі ўсяго 37 гадоў (інфекцыйныя хваробы), то сёння некаторыя вучоныя называюць лічбу 72 гады. Беларусь, як і многія краіны Еўропы, знаходзіцца ў стане дэмаграфічнага крызісу. Натуральна, адбываецца старэнне насельніцтва. Сёння пятую частку (20—22 працэнты!) жыхароў краіны складаюць людзі, якія ўжо пераадолелі 60-гадовую мяжу. Колькасць пажылых людзей працягвае расці.

Што датычыцца доўгажыхароў, то на кожную вобласць прыпадае прыкладна 120—130 чалавек, якім пераваліла за 100 гадоў. У сталіцы такіх людзей менш за 40.

**Сяргей ПРОТАС.**

*ІЗНОЎ — СВЯТА: 7 МАЯ — ДЗЕНЬ РАДЫЁ*

*Аляксандр ШАЎКО:*

## «СВАЁЙ УЛАСНАЙ ДУМКІ МЫ НЕ ІМКНЁМСЯ НАВЯЗВАЦЬ»

***Услед за Днём друку ў журналістаў яшчэ адно свята — Дзень радыё. Так, сёння мы віншуем усіх калег-радыёжурналістаў. І раскрыем чытачам адну прафесійную тайну: мы зайздросцім ім, радыёжурналістам. Зайздросцім па-добраму, азіраючыся на іх аператыўнасць. Усё ж такі большасць навін яны асвятляюць першымі. Што ні кажы, звычайна радыё апярэджвае газету. Напярэдадні свята наш карэспандэнт сустрэўся з чалавекам, голас якога вядомы ўсёй нашай краіне. Субяседнік «Звязды» — спецыяльны карэспандэнт ці не самай папулярнай перадачы «Радыёфакт» Аляксандр Шаўко.***

**— Аляксандр, з якімі клопатамі і праблемамі сустракаеце свята?**

— Ведаеце, самая асноўная праблема — надвор'е. Столькі зараз святаў, выхадных дзён. Усе рвуцца на лецішчы. І, безумоўна, згодна з прагнозам надвор'я, які пачулі ў «Радыёфакце», плануюць сваю работу на прысядзібным участку. Але гэта, прабачце, болей жартам. Усё роўна і ў непагадзь людзі зарыентуюцца і паедуць на прыроду. Такі клопат ніякі «Радыёфакт» не пераб'е.

Напярэдадні Дня Перамогі мы думаем, плануем сваю работу так, каб знаходзіцца ў эпіцэнтры падзей. Будзем весці прамую трансляцыю з плошчы Перамогі.

Дарэчы, дазвольце кароткае адступленне ад вашага пытання. Мы і праз вашу газету вас, «звяздоўцаў», віншуем з Днём друку, нядаўнім святам. Мы ўдзячныя «Звяздзе». Нягледзячы на тое, што тэхнічнай аператыўнасці ў нас болей, мы шмат што новае, аператыўнае знаходзім на старонках вашай газеты.

**— Якім вам асабіста бачыцца «Радыёфакт» заўтра?**

— Па-ранейшаму, мяркую, праграма наша і заўтра будзе насіць інфармацыйна-аналітычны характар. Аналітычная частка нашай праграмы павінна падавацца праз выказванні прафесіяналаў, праз прадастаўленне эфіру кампетэнтным, граматным спецыялістам. Мы ж, журналісты, імкнёмся толькі факты выкладаць. Разважаць жа над імі павінны самі слухачы. Сваёй уласнай думкі мы не імкнёмся нікому навязваць.

**— Каб рэалізоўваць усе творчыя задумы, вам хапае сучасных тэхнічных сродкаў?**

— Вось мы зараз заказалі такія мікрафоны, дзякуючы якім будзем весці прамую трансляцыю, без лішняй тэхнікі. Ідзе пераабсталяванне нашых рабочых месцаў. Зараз ніякіх праблем з камп'ютэрамі.

А ўвогуле хацеў бы сказаць, што поруч з тэхналагічным фактарам асаблівую ролю адыгрывае чалавечы. Разам са мной працуюць надзейныя сябры, надзейныя паплечнікі, надзейныя і адказныя радыёжурналісты — Алена Швайко, Іна Ясінская, Валерый Радуцкі.

**— І некалькі слоў пра вашы заўтрашнія творчыя праекты.**

— Вельмі цікавай, эфектыўнай атрымалася паездка ў Гомель, на сесію Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі. Дамовіліся з калегамі з Расіі, што ў самы бліжэйшы час будзем рыхтаваць сумесную расійска-беларускую радыёпраграму.

**— Дзякуй, Аляксандр, за гутарку. Яшчэ раз са святам вас! Творчага плёну і заўсёднай аператыўнасці!**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*ПОГЛЯД*

## ПЕРСПЕКТЫВЫ САЮЗА БЕЛАРУСІ І РАСІІ ВЫЗНАЧАЦЦА ВОСЕННЮ

Якімі б аптымістычнымі ні былі заявы беларускіх і расійскіх дэпутатаў наконт эфектыўнасці працы Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі, відавочна, што сёння ў дзейнасці саюзных структур наступіў нейкі крытычны момант, які рана ці позна спасцігае ўсе падобныя аб'яднанні.

Нешта аналагічнае мы назіралі некалькі гадоў таму падчас станаўлення Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Да пары да часу і ў СНД усё ішло нармальна. Была нават эйфарыя ад першых поспехаў, ад першых агульных законаў, але ў пэўны час інтэграцыйныя жаданні перавысілі рэальныя магчымасці, якія вызначаліся нацыянальнымі заканадаўствамі і спецыфічнымі асаблівасцямі кожнай дзяржавы-ўдзельніцы. У выніку прымаемыя рашэнні заведама гублялі жыццяздольнасць і, зразумела, пераставалі выконвацца на практыцы. Наслойваючыся такім чынам адно на адно, яны амаль пахавалі Садружнасць, падарваўшы яе аўтарытэт і заўважна скампраметаваўшы саму ідэю інтэграцыі на постсавецкай прасторы. Цяпер СНД, паводле трапнага азначэння А. Лукашэнкі, «ляжыць у рэанімацыі ў стане клінічнай смерці». А, як сказаў Сяргей Бабурын, прызначэнне Барыса Беразоўскага на пасаду выканаўчага сакратара Садружнасці «выклікала ў хворага шок, ад якога пацыент хоць вачыма залыпаў».

Гомельская сесія Парламенцкага Сходу Саюза Бларусі і Расіі прадэманстравала, што дзейнасць як Парламенцкага Сходу, так і некаторых іншых структур Саюза ў пэўнай ступені вычарпала сябе. Яны ўжо няздольныя дзейнічаць эфектыўна ў тым стане і ў той форме, у якіх зараз існуюць. І хаця дэпутаты адкрыта не прызнавалі гэтага факта і стараліся не называць рэчы сваімі імёнамі, яны ў той жа час сцвярджалі, што, у прыватнасці, Парламенцкаму Сходу ужо недастаткова ранейшых паўнамоцтваў.

Гэта на папярэднім этапе, маючы сённяшнія правы, можна было дэклараваць намеры, звяртацца да народаў, прымаць рамачныя заканадаўчыя акты, якія носяць выключна характар рэкамендацый, але не могуць нічога змяніць на справе. Нацыянальныя парламенты, якія павінны разглядаць такія дакументы ў першачарговым парадку, калі і робяць гэта, то ў працэсе абмеркавання змяняюць да непазнавальнасці, што ў выніку робіць іх непрымяняльнымі на практыцы.

Нават саюзны бюджэт, які быў прыняты на пазамінулай сесіі Парламенцкага Сходу ў Калінінградзе і падаваўся, бадай, як самае значнае дасягненне дзейнасці саюзных органаў і асабліва Парламенцкага Сходу, ужо праз некалькі месяцаў аказаўся нядзеючым, паколькі зараз фінансуюцца толькі 4 з 11 сумесных праграм. Дарэчы, не атрымлівае фінансавання да гэтага часу і чарнобыльская праграма, вельмі неабходная Беларусі. Такім чынам, жаданні і намеры дэпутатаў усё часцей разыходзяцца з эканамічнымі магчымасцямі і жаданнямі эканамічных і фінансавых колаў Беларусі і Расіі.

Здаецца, у Гомелі дэпутаты зразумелі агульную хваробу і заўважылі небяспеку, якую ў свой час не заўважылі ў СНД. Парламентарыі незадаволеныя такім становішчам і сваімі правамі, яны не хочуць, каб іх Саюз напаткаў лёс СНД. Гэтага апасаецца і Аляксандр Лукашэнка, таму, звяртаючыся ў Гомелі да дэпутатаў, ён падкрэсліў, што «сёлета па аб'ектыўных ці суб'ектыўных прычынах і вашы ініцыятывы і імкненні пачалі затухаць».

Ці стане выступленне Старшыні Вышэйшага Савета Саюза Аляксандра Лукашэнкі імпульсам у развіцці беларуска-расійскага міждзяржаўнага ўтварэння, на што так спадзяваліся дэпутаты? Часткова так, але парламентарыі імкнуцца шукаць і іншыя шляхі актывізацыі дзейнасці Саюза. Па гэтай прычыне галоўным пытаннем на сесіі была гутарка аб перспектывах яго развіцця і аб магчымасці трансфармацыі Парламенцкага Сходу ў паўнамоцны заканадаўчы орган.

Але і тут вельмі далёка да адзіных падыходаў, і нават гарачая дыскусія, якая разгарнулася на адным з пленарных пасяджэнняў, не расставіла кропак над «і», а яшчэ больш прадэманстравала палярнасць поглядаў. Артыкул 26 Статута Саюза прадугледжвае надзяленне Парламенцкага Сходу больш шырокімі функцыямі. Але як ператварыць Парламенцкі Сход з парламенцкага клуба ў дзеючы заканадаўчы і прадстаўнічы орган? Відавочна, толькі змяненнем яго статусу, правядзеннем выбараў дэпутатаў непасрэдна грамадзянамі Беларусі і Расіі. Але сёння няма такой схемы выбараў, якая б, з аднаго боку, захавала палітычнае раўнапраўе бакоў і не дапускала паглынання адной дзяржавы другой, а з другога — захоўвала б аднолькавае прадстаўніцтва бакоў. Фактычна дэпутаты аказаліся перад праблемай, аналагічнай той, як запрэгчы ў адны калёсы «коня и трепетную лань». Але нават вырашэнне яе пацягне за сабой дыскусію аб паўнамоцтвах такога парламента, аб коле пытанняў, якія ён будзе мець права вырашаць законамі прамога дзеяння. А гэтая дыскусія, у сваю чаргу, выкліча вострую размову аб захаванні суверэнітэту дзяржаў, што з'яўляецца яшчэ больш актуальнай праблемай.

Дзве камісіі Парламенцкага Сходу атрымалі вельмі складанае заданне: да кастрычніка гэтага года выпрацаваць агульныя падыходы адносна магчымасці непасрэдных выбараў парламента. Калі гэта ім удасца зрабіць, то, магчыма, наступная сесія Парламенцкага Сходу сапраўды акажацца важнай.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*ТЭЛЕЛОЦЫЯ*

## ЯК НАРАДЖАЎСЯ «БЛАКІТНЫ МОНСТР»

Адкрываючы тэлевізійную рубрыку, мы мелі на мэце сумесна з чытачамі паразважаць, якім павінен быць нацыянальны канал. Дзякуй за першыя водгукі. Але, гаворачы аб сучасным стане роднага БТ, мы наўрад ці ведаем яго гісторыю. Сённяшняе свята работнікаў радыё і тэлебачання дае магчымасць прыгадаць, як нараджаўся беларускі тэлеканал.

### Першыя крокі

У 1955-м (роўна праз 10 гадоў пасля таго, як першым у пасляваеннай Еўропе аднавіў рэгулярныя перадачы Маскоўскі тэлецэнтр) на беразе Свіслачы вырас чатырохпавярховы будынак з калонамі. У ім размясціліся апаратна-студыйны комплекс, памяшканні для рэдактарскага і рэжысёрскага саставу БТ. У двары менш чым за год вырасла 300-метровая вежа — дырэктыву XX з'езда КПСС, згодна з якой да 1960 года тэлецэнтры павінны былі з'явіцца ва ўсіх сталіцах саюзных рэспублік, беларусы выконвалі з апярэджаннем. І хоць яшчэ не ўсе работы былі завершаны, у нядзелю, 1 студзеня 1956 года, дыктар Т.Бастун упершыню звярнулася да тэлегледачоў Мінска: «Добры вечар, дарагія таварышы! Віншуем вас з Новым годам. Пачынаем нашы пробныя перадачы».

На маё вялікае здзіўленне, гэтай падзеі тагачасны друк не ўдзяліў сурёзнай увагі. Першая сціплая інфармацыя БЕЛТА прасачылася ... праз два тыдні. Можа таму, што ў 1956 годзе вяшчанне БТ у эфіры займала толькі 130 гадзін у год (калі дзяліць пароўну, атрымліваецца ў сярэднім па 20 хвілін у дзень). Да таго ж дыяпазон вяшчання абмяжоўваўся Мінскай вобласцю, а колькасць гледачоў — недзе 4 тысячамі.

Вялікае месца ў перадачах таго часу займала падрыхтоўка да VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве.

З гэтай падзеяй, дарэчы, звязана першая трансляцыя з Масквы 28 чэрвеня 1957 года. Каб злучыць радыёрэлейнай лініяй Мінск з Масквой, трэба было пабудаваць 15 прамежкавых прыёмаперадаючых станцый. На той час фізічна неажыццявімая задача. І ўсё ж выйсце знайшлі: пабудавалі буйную рэтрансляцыйную станцыю ў Смаленску, а яшчэ дзве ўсталявалі... на самалётах, якія на вышыні 3000 метраў ажыццяўлялі сувязь паміж Масквой і Смаленскам, Смаленскам і Мінскам, чым забяспечвалі нармальнае праходжанне сігналу па ўсёй трасе.

### Першыя перадачы

Самым першым на нацыянальным канале паказалі кіначасопіс «Навіны дня», а дэманстрацыю мастацкіх стужак адкрыла «Пакаленне пераможцаў». Праграмы выходзілі не кожны дзень, былі не надта працяглымі і ў асноўным уяўлялі сабой паказ канцэртаў і спектакляў на кінаплёнцы, якія дасылаліся з Масквы, а таксама фільмаў і кіначасопісаў, што былі ў мясцовым пракаце.

Да таго ж перыяду можна аднесці і ўзнікненне нацыянальнай тэлекрытыкі. На пачатку 1957-га «Звязда» папракала БТ: «У перадачах бледна і непераканаўча паказваецца жыццё Савецкай Беларусі. Перад тэлегледачамі рэдка выступаюць вядомыя ў рэспубліцы наватары з прадпрыемстваў, калгасаў і МТС». Сапраўды, першы рэпартаж з завода пайшоў у эфір толькі ў жніўні 1958-га.

Але было за што і пахваліць БТ. У прыватнасці, за шматмільённыя лекторыі. Дзякуючы газеце «Правда», якая выступіла з рэцэнзіяй «Аўдыторыя — уся рэспубліка», вопыт БТ рэкамендавалі да выкарыстання ва ўсіх саюзных рэспубліках і на ЦТ. Вось так, ведай нашых.

Значнае месца ў перадачах займаў сельскагаспадарчы цыкл, цыклы «Гэта зроблена ў Беларусі» і «Ёсць такая прафесія». Усе тры аказаліся доўгажыхарамі. Успомніце хаця б сённяшняе ток-шоу «Гэта мая работа». А вось цёзка сучаснай інфармацыйна-аналітычнай праграмы «Рэзананс» у 60-я гады была... музычна-забаўляльнай праграмай.

### Першыя тэлевізары

Спачатку пераважалі расійскія чорна-белыя «ТЭМПы» (каляровыя з'явіліся толькі ў верасні 1974, з увядзеннем новага тэлецэнтра па Макаёнка, 9). Потым паклапаціўся пра гледача і мінскі радыёзавод. Асноўнай яго прадукцыяй ў 6-ю пяцігодку стаў камбінаваны тэлевізар «Беларусь-2», які складаўся з усяхвалевага радыёпрыёмніка, універсальнага прайгравальніка і тэлевізара на 5 праграм. Памер экрана — 24 на 18. Калі ў 1959-м у кватэрах толькі мінчан налічвалася 17 тысяч тэлевізараў, то праз 10 гадоў іх было ўжо больш за сто тысяч.

На маскоўскай выставе радыётэхнікі, што адбылася ў 1959 годзе, экспанаваўся тэлевізар «Беларусь» новага пакалення — 12-канальны і (не паверыце!) з дыстанцыйным кіраваннем. А мы лічылі, што дыстанцыйнае кіраванне — гэта замежныя «штучкі».

**Вядучы рубркі Цімур ХІЛЬКЕВІЧ.**

**СЁННЯ**

**МЕСЯЦ**

**Першая квадра 3 мая**

***З 15.34 — 12-ыя месяцавыя суткі.***

***З 16.26 Месяц — у сузор'і Шаляў.***

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 12—14, Мінску, Магілёве — 13—15, Гродне, Гомелі — 14—16, Брэсце — 15—17 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, 8 мая — месцамі, пераважна па поўначы, кароткачасовыя дажджы, навальніцы; 9-га — без ападкаў. Тэмпература ўначы — 5—10, удзень 8-га — 17—22, 9-га — 20—25 градусаў вышэй нуля.






■ *У засені соснаў беласнежныя карпусы «Белай Русі».*

***Установы, як і людзі, нараджаюцца, жывуць, святкуюць юбілеі... Вось і санаторый «Белая Русь» адзначае свой першы юбілей — дзесяцігоддзе. Размешчаная ў маляўнічым сасновым бары на беразе славутага возера Нарач, здраўніца стала любімым месцам адпачынку для многіх тысяч людзей. Да таго ж установа гэта спецыфічная, належыць Міністэрству ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, за сродкі якога і была пабудавана. І цяпер санаторый на балансе міністэрства. Адпачываюць і папраўляюць сваё здароўе тут у асноўным супрацоўнікі органаў унутраных спраў. Праўда, недзе працэнтаў дзесяць пуцёвак кіраўніцтва здраўніцы выдзяляе прадстаўнікам іншых арганізацый ці проста індывідуалам.***

***І ўвесь гэты час начальнікам санаторыя нязменна працуе палкоўнік міліцыі Васіль Мардвінаў. Пра такіх, як ён, кажуць, што чалавек душу ўкладвае ў справу. І гэта адразу ж адчуваецца, як толькі пераступаеш парог здраўніцы.***

У ГЭТЫЯ веснавыя дні санаторый абуджаецца рана. Снеданне тут пачынаецца роўна ў 9 гадзін. Але задоўга да гэтага памяшканне ўжо нагадвае растрывожаны вулей: ледзь не з сямі гадзін раніцы дзверы раз-пораз адчыняюцца, выпускаючы ўсё новых і новых насельнікаў. Засумаваўшы доўгімі зімовымі днямі па цяплу і сонейку, усе імкнуцца на волю. А тут у самым канцы красавіка надвор'е, быццам спахапіўшыся, нарэшце адарыла цяплом. Ды такім, што ў пакоях нікому не сядзіцца. А раніцай — асабліва. Настоенае на водары сасновай жывіцы паветра, нібыта той хмельны напой, які хочацца піць і піць бясконца. Нехта ўладкоўваецца на лаўках, што веерам ахопліваюць галоўны корпус, іншыя шыбуюць ценістымі ляснымі сцежкамі. А сёй-той, апрануўшы спартыўны касцюм, кіруе ў напрамку сцяжынкі, што вядзе да возера. Вада яшчэ сцюдзёная, некалькі тыдняў як сышоў лёд. Людзі проста хочуць «размяць костачкі», скінуць лішнія кілаграмы. Хаця, калі глянуць у меню снедання, дзе на выбар прапануюць некалькі смачных страў, стрымаць апетыт у такіх умовах ой як няпроста. Тым болей, калі ёсць рэальная магчымасць не проста выбіраць з таго, што ёсць, а яшчэ і папярэдне заказваць любімыя стравы.

Пасля ранішняга «мацыёну» за сталом — лячэбныя працэдуры. Разам з галоўнай медыцынскай сястрой Тамарай Валюк робім своеасаблівую экскурсію па санаторыю.

Першае, з чым абавязкова сутыкнецца кожны пацыент здраўніцы, — гэта знаёмства з урачом. На аснове санаторнай карты ён выпісвае ўвесь комплекс працэдур. Потым — камп'ютэрная зала, дзе дакладна ўказваецца расклад работы кожнага кабінета. У выніку адпадае неабходнасць бавіць свой час у бясконцых чэргах. А з другога боку, такі расклад дня дысцыплінуе і саміх пацыентаў. Спазніўся на 5—7 хвілін — на столькі ж часу змяншаецца і сам сеанс. Другім разам чалавек ужо больш уважліва пагледзіць у санаторную карту, бо за ўвесь комплекс розных працэдур разлічваца даводзіцца самому — усё ўваходзіць у кошт пуцёўкі. А каму хочацца выкідваць на вецер уласныя грошы? Тым больш калі ўлічыць, што каштуе тая пуцёвачка нятанна — дзесяці 9 мільёнаў рублёў. Праўда, для супрацоўнікаў сістэмы Міністэрства ўнутраных спраў значная частка кошту пуцёўкі аплачваецца з бюджэту.

Набор аздараўляльных працэдур даволі багаты, у першую чаргу ўсё залежыць ад агульнага стану пацыента, спецыфікі захворвання. Але ёсць працэдуры, якія, па словах Тамары Раманаўны, карыстаюцца асаблівай папулярнасцю ва ўсіх без выключэння насельнікаў санаторыя. Яны абавязкова просяць падводны масаж. У свой час для гэтага набылі дзве спецыялізаваныя ванны, а нядаўна — яшчэ дзве такія ж.

Ва ўтульным пакоі трэцяга паверха лячэбнага корпуса размешчана аптэка. Апрача звычайных лекаў, выбар якіх тут даволі разнастайны, загадчыца аптэкі Аліна Нянашава са сваімі памочніцамі гатуе травяныя кактэйлі, лекавыя зборы.

Вельмі папулярнай у наш час стала ультрагукавая дыягностыка. У прыватнасці, у звычайных паліклініках, дзе ёсць апарат УЗІ, чэргі на абследаванне — на некалькі тыдняў, а то і месяцаў. А ў санаторыі дзейнічаюць ажно два такія апараты. А таму, як растлумачыў урач Віктар Гірса, абследаванне тут можа прайсці практычна кожны адпачываючы, хто мае ў гэтым патрэбу.

Ніколі не пустуе і трэнажорная зала. Многія займаюцца тут па прадпісанню ўрача. Але ёсць аматары, для якіх «качаць мускулы» — проста асалода. І што цікава, трэнажорная зала карыстаецца асаблівай папулярнасцю не толькі ў прадстаўнікоў моцнага полу, але і ў жанчын.



■ *Начальнік санаторыя Васіль МАРДВІНАЎ.*

На другім паверсе — ажно 33 лячэбныя кабінеты, прычым некаторыя з разраду даволі рэдкіх. Не першы год, напрыклад, тут практыкуе спецыяліст па іголкатэрапіі Юрый Прус. У перапынку паміж працэдурамі Юрый Рыгоравіч з задавальненнем расказвае пра цудадзейныя вынікі сеансаў.

У свой час сапраўдны ажыятаж выклікалі сеансы доктара Касьяна. Менавіта дзякуючы настойлівым намаганням гэтага самародка мануальная тэрапія і ў былым Саюзе нарэшце атрымала законную прапіску. А раней гэты метад лічыўся ледзь не шарлатанскім. Прынамсі, ні ў адным з трох медыцынскіх інстытутаў нашай рэспублікі да нядаўняга часу не толькі не было спецыялізаваных кафедраў па мануальнай тэрапіі, але не было нават такога прадмета. У той час як у краінах Еўропы дзейнічалі ўжо некалькі школ мануальнай тэрапіі: нямецкая, англійская, чэшская... Там выдаваліся шматлікія падручнікі і проста дапаможнікі для спецыялістаў, што практыкуюць у гэтым напрамку. У санаторыі ўжо каторы год працуе вопытны майстар сваёй справы ўрач Міхаіл Місуна.

— Добрая трэць людзей у той ці іншай ступені мае патрэбу ў дапамозе спецыялістаў мануальнай тэрапіі, — тлумачыць Міхаіл Мікалаевіч, — радыкуліт, артрыт. Мала хто не зведаў на сабе праяў гэтай немачы. І нярэдка адзінымі эфектыўнымі лекамі тут з'яўляюцца рукі мануальнага тэрапеўта. Вось і імкнуся, чым толькі магу, дапамагаючы людзям. Лічу, мне вельмі пашанцавала, што ў 1993 годзе прайшоў школу мануальнай тэрапіі ў Мінскім інстытуце ўдасканалення ўрачоў. Асабіста стажыраваўся ў вядомага мануальнага тэрапеўта прафесара Мікалая Філіповіча.

Як вопытны гід, Тамара Раманаўна паказвае адзін за адным кабінеты, дзе прымаюць пацыентаў вопытныя майстры сваёй справы. Яна тут адна са старажылаў. Амаль адзінаццаць гадоў таму старшую аперацыйную сястру Мядзельскай раённай бальніцы Тамару Валюк запрасілі на пасаду галоўнай медыцынскай сястры ў новы санаторый. Ён тады яшчэ толькі будаваўся. З таго часу і працуе тут.

З задавальненнем пагутарылі з прадстаўніком яшчэ адной даволі рэдкай сярод медыкаў спецыяльнасці — псіхатэрапеўтам. Уласна кажучы, знаёмства з урачом псіхатэрапеўтам Ібрагімам Крыніцкім пачалося з кнігі водгукаў. Ібрагім Сулейманавіч працягнуў нам гэтакі «грос-бух», а сам пайшоў праводзіць чарговы сеанс з пацыентамі. Колькі ўдзячных слоў, колькі цяпла, любові, сардэчнасці ў тых шчырых запісах, што ўтрымлівае гэта кніга! Падумалася: як мала мы ведаем пра таямніцы душы чалавека. А душэўныя раны нярэдка прыносяць куды большыя пакуты, чым іншая цялесная немач.

На адным з кабінетаў убачылі прозвішча начальніка санаторыя Васіля Мардвінава. Аказваецца, ён праводзіць тут сеансы апі-



■ *Урач псіхатэрапеўт Ібрагім КРЫНІЦКІ гутарыць з пацыентамі.*



■ *У санаторнай сталовай абслужаць хутка і якасна.*



■ *У кабінец*






■ Ва ўтульным холе санаторыя заўсёды людна.

тэрапіі. Тут жа і адмысловы вулей з пчоламі.

— «Апіс» у перакладзе з латыні азначае «пчала», — усміхаецца Васіль Васільевіч. — Дарэчы, метад лячэння з дапамогай пчалінага яду вядомы яшчэ са старажытных часоў. Вось і мы ўзялі яго на ўзбраенне. Эфект даволі высокі. Ва ўсякім разе, апітэрапія паспяхова выкарыстоўваецца пры лячэнні астэахандрозу, поліартрыту, артрыту, неўрыту...

Як і многія іншыя супрацоўнікі здраўніцы, Васіль Васільевіч таксама з'яўляецца старажылам. Пасля заканчэння ў 1971 годзе Мінскага медінстытута доўгі час працаваў урачом у Астравецкім раёне. А ў студзені 1987 года яму прапанавалі ўзначаліць будучы новы санаторый. Тады яшчэ будаўнічым работам канца не было бачна. Ва ўсякім разе, па словах Васіля Васільевіча, ніхто не мог дакладна сказаць, калі нарэшце аб'ект будзе ўведзены ў эксплуатацыю. У многім справу ўдалося зрушыць з месца дзякуючы настойлівасці былога намесніка міністра ўнутраных спраў Барыса Матусевіча. А непасрэдна будоўлю тады курыраваў былы начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва, а цяпер намеснік міністра ўнутраных спраў Аркадзь Чванкін. Менавіта іх намаганнямі ды самаадданай працай будаўнікоў, супрацоўнікаў санаторыя аб'ект быў здадзены дакладна ў тэрмін — 8 мая 1988 года. З таго часу санаторый ні на адзін дзень не перастае выконваць свае функцыі здраўніцы. Прычым, па ацэнках спецыялістаў і саміх адпачываючых, «Белая Русь» — адзін з лепшых санаторыяў рэспублікі. Выдатныя лекі, шматлікія працэдуры ў спалучэнні з гаючым нарачанскім паветрам, шчодра настоеным на водары мясцовых бароў, літаральна твораць цуды. Прынамсі, хто хоць аднойчы адпачываў тут, абавязкова імкнецца на наступны год зноў прыехаць сюды. У гэтым мы самі пераканаліся, калі гутарылі з прапаршчыкам Васілём Шчурам. Ён сюды прыязджае на працягу апошніх пяці гадоў. Раней, па яго словах, даводзілася адпачываць і ў Сочы, і ў прыбалтыйскіх санаторыях. Але «Белую Русь» ні з чым не параўнаць. Тут і лячэнне больш эфектыўнае, і абслугоўванне выдатнае. А чаго варта возера Нарач!

Падумалася: мо сам Бог паслаў нам і гэтае цуд-возера, і маляўнічыя лясы, што абрамляюць яго берагі. Апошнім часам нямала размоў вядзецца вакол перспектыў Нарачанскага краю. Адны бачаць яго нацыянальным паркам, другія гатовы ўсё звесці толькі да турызму. А кіраўнік адміністрацыі Мядзельскага раёна Іосіф Варановіч лічыць, што лепш за ўсё — надаць раёну статус санаторна-курортнай зоны. Скептыкі спасылаюцца на тое, што, маўляў, прэцэдэнтаў гэтаму няма ў рэспубліцы. Але ж і возера Нарач — унікальная рэч, сапраўдная жамчужына Беларусі. Яго трэба захаваць, зберагчы для нашчадкаў І таму было б вельмі дарэчы надаць гэтаму краю статус санаторна-курортнага. Атрыманыя ад аздараўлення людзей сродкі можна было б накіроўваць і на экалогію самога возера, акаляючых лясоў. Пры разумным падыходзе да справы сродкі заўсёды можна знайсці. Камерцыйныя кошт пуцёвак у той жа «Белай Русі» дасягае 12 мільёнаў рублёў. А ўсяго ў Мядзельскім раёне 12 санаторыяў і дамоў адпачынку. І іх роля ўзрастае яшчэ і таму, што многія здраўніцы былога Саюза цяпер сталі недаступнымі для большасці жыхароў рэспублікі. А як неабходны сёння нашы здраўніцы пакутнікам Чарнобыля! Дзе і як арганізаваць іх аздараўленне?

Гэтыя і многія іншыя думкі апанавалі мяне, калі знаёміўся з санаторыем «Белая Русь». Дзякуй Богу, што такія санаторыі яшчэ ёсць у рэспубліцы, што яны функцыянуюць, як і раней!

Некалькі гадзін доўжылася наша экскурсія па санаторыю «Белая Русь». Мы пазнаёміліся з тымі, хто вяртае людзям здароўе, бадзёрасць і сілу, дае натхненне. А позна ўвечары ўтульнае фае будынка запоўнілі адпачываючыя. Меладычныя гукі баяна, прыгожыя галасы саміх адпачываючых напоўнілі сэрцы людзей цяплом і сардэчнасцю. Аказваецца, тут у чарговы раз праходзіў вечар народнай песні. А спяваць, як вядома, у Беларусі любяць.



■ Урач Віктар ГІРСА абследуе пацыента на апараце УЗІ.



■ Ванны з падводным масажам карыстаюцца нязменным попытам сярод пацыентаў санаторыя.



■ Галоўная медыцынская сястра Тамара ВАЛЮК і медсястра Іна ШУКЕЙЛА ў інгаляторыі.

Рэпартаж з санаторыя «Белая Русь» вялі спецыяльныя карэспандэнты «Звязды» Уладзімір ГОЙТАН і Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).

222395, Мінская вобласць, Мядзельскі раён, г. п. Нарач, санаторый «Белая Русь».
Тэлефоны: 57-7-10.
Факс 57-6-40.



...еце кіслароднай тэрапіі.



■ «Качаць мускулы» — для многіх сапраўднае задавальненне.



■ Трэнажорная зала ніколі не пустуе.

ЗАВОД
КРАСНЫЙ МЕТАЛЛИСТ

222120, г. Барысаў, вуліца 1 ліпеня, 6, завод «Чырвоны металіст». Тэл. (8-277) 337-52.

Дырэктар барысаўскага завода «Чырвоны металіст» Іван ТРУСАЎ:

# «Прадпрыемства гатова папрацаваць на Рэспубліканскі перапіс насельніцтва і паспрыяць прывядзенню нашых гарадоў і вёсак у цывілізаваны выгляд»

ПРАДУКЦЫЮ гэтага прадпрыемства ведаюць большасць з нас. І найперш — посуд, што вырабляюць у Барысаве на заводзе «Чырвоны металіст». Ён карыстаецца добрым попытам не толькі ў Рэспубліцы Беларусь, але і за яе межамі. А яшчэ тут выпускаюць сантэхабсталяванне, бляшаныя вырабы, якія таксама даўно і трывала заваявалі свае, унутраны і знешні рынкі збыту.

«Звязда» не адзін раз пісала аб набытках барысаўчан. І не без падстаў на тое. Тут сапраўды працуе добры, зладжаны калектыў, літаральна кожны член якога ведае і любіць сваю справу, імкнецца дасягнуць як мага лепшых вытворчых паказчыкаў. Ніколі не самазаспакойваюцца, не спачываюць, што называецца, на лаўрах і інжынерна-тэхнічныя работнікі, служачыя, кіраўнікі ўсіх падраздзяленняў «Чырвонага металіста». Як неаднойчы адзначалі яны ў гутарках, спаць у шапку ім не дазваляюць час, абставіны, тая сацыяльна-эканамічная сітуацыя, у якую трапілі і завадчане, і наша маладая суверэнная дзяржава ў цэлым.

Упэўнены старт узяў калектыў «Чырвонага металіста» і ў сёлетнім годзе. Вось як выглядаюць асноўныя тэхніка-эканамічныя паказчыкі завода за першы квартал 1998-га:

аб'ёмы вытворчасці ў дзеючых цэнах склалі 32.808 мільёнаў рублёў, у супастаўных — 37.050 мільёнаў (тэмпы росту ў параўнанні з першым кварталам 1997 года роўныя адпаведна 267,0 і 239,0 працэнта);

вытворчасць тавараў народнага спажывання ў дзеючых цэнах — 14.250 мільёнаў рублёў (у параўнанні з першым кварталам мінулага года тэмпы росту склалі 273 працэнты);

фонд аплаты працы склаў 4840 мільёнаў рублёў;

прадукцыйнасць працы аднаго працаўніка — 80.895 рублёў (рост на 231,7 працэнта);

колькасць працуючых — 463 чалавекі;

сярэдняя заработная плата аднаго працаўніка — 3475,9 тысячы рублёў (тэмп росту ў параўнанні з леташнім першым кварталам — 218,2 працэнта).

Умовы работы на прадпрыемстве, трэба прызнаць, як і ў большасці іншых вытворцаў нашай рэспубліцы, не самыя лепшыя і сучасныя. Абсталяванне, устаноўленае ў карпусах завода, хаця і не дзедаўскіх часоў, але, несумненна, мае патрэбу ў мадэрнізацыі, абнаўленні. Сродкаў, аднак, на гэту патрэбную справу няма, бо іх трэба не адзін мільярд. Але і кіраўнікі «Чырвонага металіста», і радавыя рабочыя не адчайваюцца: яны робяць сваю справу, выпускаюць патрэбную ўсім нам прадукцыю.

І, як бачна з прыведзеных вышэй даных, працуюць з нарошчваннем аб'ёмаў. А яшчэ — дыхтоўна і сучасна.

На прадпрыемстве разумеюць: каб не адстаць ад запатрабаванняў спажыўцоў (а яны, як вядома, вельмі тонкія, іншы раз — нават прыдзірлівыя), трэба пастаянна абнаўляць асартымент вырабаў, крочыць, што называецца, у нагу з часам. І ў гэтых адносінах на «Чырвоным металісце» сёлета мяркуюць зрабіць вельмі вялікі крок наперад. Маецца на ўвазе намер асвоіць адразу 26 новых відаў вырабаў. Сярод іх — ёмістасці для хімічных прадуктаў, самыя розныя па прызначэнню свяцільні, абагравальнікі, дах кампазіцыйны рыфлёны, ванны, металічныя агароджы, металічная мэбля і інш. Як бачыце, прадукцыя таксама, як і цяперашняя, вельмі патрэбная спажыўцу. Яна будзе адпавядаць самым сучасным стандартам і, такім чынам, знойдзе свайго пакупніка.

Сярод разнастайных відаў прадукцыі завода «Чырвоны металіст» ёсць яшчэ адзін, які сёння — без перабольшання — патрэбен не аднаму-двум і нават — дзесяці ці сотні канкрэтных спажыўцоў, а ўсім нам разам, а калі яшчэ дакладней — цэлым гарадам і вёскам Рэспублікі Беларусь. Размова ідзе пра паказальнікі назваў населеных пунктаў, вуліц, нумароў дамоў, іншыя паказальныя знакі. І вось чаму.

Больш як два гады таму — а дакладней 5 лютага 1996 года — Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ № 47 «Аб правядзенні ў 1999 годзе перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь». У развіццё дырэктыўных установак гэтага дакумента тагачасны Кабінет Міністраў (цяпер — Савет Міністраў) прыняў адпаведную пастанову № 297 ад 3 мая таго ж 1996 года, у якой сярод іншых канкрэтных задач і даручэнняў прапанаваў мясцовым органам улады навесці належны парадак у знешнім афармленні населеных пунктаў рэспублікі.

Падставы для дадзенага ўказання ёсць вялікія і грунтоўныя. Спыніцеся сёння на той ці іншай вуліцы і нават праспекце самага вялікага горада, азірніцеся навокал... Колькі шыльдаў і паказальнікаў з самымі элементарнымі арфаграфічнымі памылкамі кінуцца вам у вочы! А колькі блытаніны ў аднайменных назвах вуліц і завулкаў! На добрай палове жылых дамоў назвы вуліц адсутнічаюць наогул, нумары ж дамоў «выканаты» альбо бляклай, даўно выцвілай фарбай, альбо проста сарваныя, запэцканыя, скарожаныя «ўдалымі» малайцамі... «Хуткія дапамогі» і міліцэйскія «варанкі», не кажучы пра прыезджых з іншых населеных пунктаў, блытаюцца на вуліцах нашых гарадоў і пасёлкаў, нібыта ў тундры...

А колькі вёсак, асабліва невялікіх, наогул не маюць паказальнікаў сваіх назваў!

Адным словам, праблема ёсць, яна заўважана, мясцовым выканаўчым органам улады дадзены канкрэтныя даручэнні выправіць недахопы і прыкрыя прамашкі.

**Дапамагчы, паспрыяць вырашэнню праблемы гатовы калектыў барысаўскага завода «Чырвоны металіст». Паказальнікі, дарожныя знакі, іншую прадукцыю гэтага асартыменту ў цэхах прадпрыемства робяць на сучасным абсталяванні, якасна, у адпаведнасці з патрабаваннямі міжнародных стандартаў.**

Дарэчы, шмат такіх вырабаў барысаўчане выпускаюць па заказах з далёкага і блізкага замежжа.

Такім чынам, Барысаў чакае заказчыкаў. Да чарговага Рэспубліканскага перапісу насельніцтва засталося менш года. Указ прэзідэнта аб яго правядзенні знаходзіцца на кантролі, а неўзабаве адпаведныя інстанцыі пацікавяцца, як канкрэтна выконваюцца даручаныя справы.

«Нашы населеныя пункты, — зазначыў у гутарцы з карэспандэнтамі «Звязды» дырэктар завода «Чырвоны металіст» Іван Трусаў, — павінны набыць цывілізаваны выгляд. І ў горадзе над Бярэзінай гатовы паспрыяць гэтаму».

**Падборку падрыхтавалі Анатоль МЯСНІКОЎ і Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).**


Эмаліроўшчыца Таццяна КАЛЯДА.






Брыгада эмаліроўшчыц Галіны ХОЛАД.

---

# «БЕЛАЯ АМФАРА» Ў ВІЦЕБСКУ:
## лепшыя мадэльеры дэманструюць новыя распрацоўкі, а кіраўнікі прадпрыемстваў «трымаюць савет»

**У дні першамайскіх святаў, з 29 красавіка па 3 мая, у Віцебску прайшоў заключны этап рэспубліканскага конкурсу мадэльераў адзення і абутку «Белая амфара».**

Конкурс «Белая амфара», які спачатку нарадзіўся як гарадскі, але пры садзейнічанні канцэрна «Беллегпрам» яшчэ ў мінулым годзе выведзены на статус рэспубліканскага, праходзіў па 2 намінацыях (прамысловае і непрамысловае мадэліраванне) і 8 тэмах (тэмы «сезон», «офіс», «рух» і г.д.). У конкурсе прынялі ўдзел больш як 150 мадэльераў з розных гарадоў рэспублікі, лепшыя з іх атрымалі дыпломы і прэміі. У рамках «Белай амфары» праведзены таксама конкурс агенцтваў манекеншчыц і непасрэдна саміх манекеншчыц і ўпершыню прайшоў дзень дзіцячай моды.

— У гэтых конкурсных спаборніцтвах удзельнічалі прадстаўнікі прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці, студэнты, якія выбралі для сябе адпаведныя спецыяльнасці, словам — прафесійна падрыхтаваныя людзі, — расказвае старшыня аргкамітэта «Белай амфары-98» віцэ-прэзідэнт канцэрна «Беллегпрам» Анатоль Гураў. — Гэта было не проста прыгожае шоу (а прыгожае яно было сапраўды). Наш канцэрн апранае больш за 80 працэнтаў нашых людзей, і мы проста абавязаны ісці ў рэчышчы моды. Наша мэта — прыцягнуць лепшыя творчыя сілы да распрацоўкі арыгінальных мадэляў айчыннага адзення і абутку, у тым ліку, вядома ж, і на аснове народных традыцый, у поўнай меры задзейнічаць тыя рэсурсныя магчымасці, якія мае айчынная лёгкая прамысловасць (тут жа варта ўдакладніць: арганізатары конкурсу ўстанавілі спецыяльную прэмію за калекцыю, створаную на аснове ці пераважна з тканін, пражы і іншых матэрыялаў, якія выпускаюцца на прадпрыемствах канцэрна «Беллегпрам»). Мы ўжо можам смела казаць, што наша адзенне па ўзроўню мадэліравання, па комплексных якасных характарыстыках стала на парадак вышэй, чым раней, а ўзоры, якія ствараюцца на мінскіх «Мілавіцы», «Элеме», у Беларускім цэнтры моды, магілёўскай «Вяснянцы», віцебскім КІМе, атрымалі міжнароднае прызнанне.

У далейшым пры правядзенні «Белай амфары» мы мяркуем і яе вывесці на міжнародны ж узровень, г. зн. пашырыць межы конкурсу, не засяроджваючыся толькі на рэспубліцы.

А цяперашнімі пераможцамі «Белай амфары» сталі: мастачка «Мілавіцы» Алена Міт (яна заваявала званне абсалютнай пераможцы, дыплом «Гран-пры» і самую вялікую прэмію ў памеры 1500 долараў), мастачка Беларускага цэнтра моды Вольга Ламака (першае месца ў намінацыі «непрамысловае мадэліраванне» і грашовая прэмія, а таксама спецыяльная прэмія за калекцыю, створаную на аснове матэрыялаў, выпускаемых у канцэрне «Беллегпрам»). Акрамя таго, першыя месцы па сваіх тэмах занялі мастачка Алеся Андраюк (Беларускі дом моды), мастакі Уладзімір Радановіч і Надзея Дайнека (фірма «Надэкс», Мазыр), выкладчыца Віцебскага тэхналагічнага універсітэта Людміла Тараканава, мастачкі Вольга Самошчанка і Таццяна Афанасьева («Калінка», Салігорск). У конкурсе манекеншчыц пераможцамі сталі мінскае агенцтва «Тамара» і яго ж прадстаўніца Кацярына Кракоўская.

***

Падчас правядзення «Белай амфары» сабраліся і кіраўнікі прадпрыемстваў канцэрна — на савет прэзідэнта канцэрна або свой малы савет. Заяўленая тэма савета — вынікі работы «Беллегпрама» ў першым квартале, аднак, па сутнасці, усю размову дырэктары засяродзілі на існуючых праблемах. Абазначым коратка іх.

Зразумелы неспакой у дырэктарскага корпуса выклікае той факт, што пры растучых аб'ёмах вытворчасці і зніжэнні ўнутрывытворчых выдаткаў адначасова ж зніжаецца рэнтабельнасць, чаго, увогуле, з улікам першых двух фактараў, здавалася б, не павінна быць — наадварот, павінен быць і рост рэнтабельнасці... Прычына гэтага — у адміністрацыйным стрымліванні цэн. Як сказана ўжо, на прадпрыемствах зніжаюцца ўнутрывытворчыя выдаткі, разам з тым няўхільна растуць кошт закупляемых сыравіны, матэрыялаў і энергарэсурсаў, пры гэтым падае курс нацыянальнай валюты, якую цяпер прыходзіцца набываць па 70 тысяч і больш рублёў, што ў цэлым далёка не адэкватна росту цэн прадпрыемстваў на іх уласную прадукцыю (варта нагадаць: больш як 2 працэнты ў месяц — не дазволена). А ў выніку рэнтабельнасць прадукцыі на прадпрыемствах канцэрна за 3 месяцы склала 15 працэнтаў пры 17,8 у першым квартале мінулага года; 7 прадпрыемстваў мелі страты (пры гэтым падкрэслім такі парадокс: гэта былі страты пры добрым попыце на іх прадукцыю), на 16 прадпрыемствах рэнтабельнасць ніжэй за 5 працэнтаў. Між тым, як правільна зазначалася падчас савета, толькі на кампенсацыю адной інфляцыі, г. зн. страт ад яе, пайшло ў першым квартале каля 12 працэнтаў рэнтабельнасці. Што ж застаецца?.. У сувязі з гэтым адзін з кіраўнікоў выказаў наступны прагноз: пры прадаўжэнні такой палітыкі к канцу года палова прадпрыемстваў будуць стратнымі. «Не зэканоміш жа ўсю сыравіну, трэба ж і ў выраб нешта закладваць», — змрочна выказаўся адзін з кіраўнікоў.

Асабліва нялёгка даводзіцца тым, хто, як зразумела ўжо, робіць значныя закупкі за мяжой, а таксама тым, хто не можа хутка... змяніць артыкул. А значыць — і цану. Гэты «контраргумент» (змена артыкула), які бралі кіраўнікі на ўзбраенне раней, відаць, зноў у пашане. Пры адмене асноўнага рыначнага правіла «Тавар павінен прадавацца за тую цану, за якую ён прадаецца», за якое так ці іначай выказаліся ўсе, многія проста вымушаны гэты метад шанаваць.

Яшчэ адна праблема — вызначаныя квоты паставак прадукцыі на ўнутраны рынак. Прадукцыя па гэтых квотах часта не запатрабуецца гандлем, адгружаная ж прадукцыя падоўгу не аплачваецца... «Квотныя» патрабаванні ў пэўнай меры паўплывалі на павелічэнне рэшткаў гатовай прадукцыі на складах... У сувязі з гэтым варта дадаць: яшчэ раней ад аднаго з кіраўнікоў прадпрыемстваў стала вядома, што адносна іх фірменнага магазіна выдалі з вобласці наступнае прадпісанне — прадаваць не больш 2 адзінак вырабаў у адны рукі. І гэта пры тым, што прадпрыемствы павінны знаходзіць як мага хутчэйшыя шляхі рэалізацыі і, адпаведна, атрымання прыбытку, сродкаў (у тым ліку і для пералічэння іх у бюджэт), не дапускаць накаплення тых жа запасаў... На якую ж эканоміку працуе гэта прадпісанне, як з яго дапамогай можна дабіцца эканамічнага росту? Зрэшты, добра зразумела: гэта прадпісанне — з мэтай так званай абароны айчыннага спажывецкага рынку.

Не лепшым чынам уплываюць на работу многіх прадпрыемстваў і праблемы з курсам і набыццём валюты (кіраўнікі ў большасці сваёй — за рэальны курс), абавязковы продаж 30 працэнтаў заробленай валюты па курсу НБ, абавязковае ж правіла, згодна з якім на рахунак прадпрыемства, якое паставіла прадукцыю за межы рэспублікі, выручка павінна паступіць не пазней чым у 60-дзённы тэрмін (інакш — значныя штрафныя санкцыі)... Дарэчы, гэтыя праблемы і рэгламентацыі і адносіны да іх кіраўнікоў прадпрыемстваў — ужо добра вядомыя, шкада, што апаніравалі апошнія толькі да кіраўніцтва канцэрна. Падкрэслім іншае: дробязнасць апекі ў дачыненні да прадпрыемстваў з боку многіх ведамстваў і патрабаванне паператворчасці, залішняя і груваcткая, на думку работнікаў прадпрыемстваў, рэгламентацыя адносна тых ці іншых працэдур — напрыклад, адносна сертыфікацыі прадукцыі. «На кожны чых цяпер патрэбна паперка», — так выказалася спецыяліст з Баранавіцкага баваўнянага камбіната.

На сённяшні дзень лёгкая прамысловасць рэспублікі ў цэлым працуе нядрэнна, мае добрыя тэмпы росту. Апошнім часам павялічаны выпуск дзіцячага адзення і іншых дзіцячых вырабаў, хоць яны для прадпрыемстваў часта і нявыгадныя, зніжана вытворчасць вырабаў з давальніцкай сыравіны (вядома, на карысць вырабаў з уласнай); лёгкая прамысловасць няблага замацавалася на многіх рынках і ў першую чаргу — на расійскім. Гэта станоўчасць, аднак, слаба падмацоўваецца (або ўвогуле не падмацоўваецца) фінансавай эфектыўнасцю, пра што сказана ўжо вышэй, прычым яўна па прычынах, на якія прадпрыемствы паўплываць не ў стане. Дарэчы, гэта сітуацыя характэрная для многіх прадпрыемстваў і ў іншых галінах. Варта цалкам падтрымаць іх кіраўнікоў: цяперашнія многія даволі жорсткія адміністрацыйныя ўстаноўкі патрабуюць яўнай карэкціроўкі — у бок эканамічных метадаў рэгулявання. Да апошніх, рана ці позна, усё роўна давядзецца звярнуцца.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

# БУДЗЬЦЕ ПІЛЬНЫМІ!

## Трэнерская халатнасць і дзіцячае свавольства прывялі да бяды

У апошнія гады дзяржава робіць усё магчымае для ўмацавання матэрыяльнай базы і розных спартыўных клубаў, школ і секцый. Узрастае цікавасць да заняткаў спортам у моладзі, і гэта добрыя прыметы аздараўлення насельніцтва. Праўда, адначасова з матэрыяльнай дапамогай, на жаль, не заўсёды звяртаецца ўвага на дзелавыя і чалавечыя якасці выкладчыкаў і трэнерскага саставу асоб, якія працуюць з дзецьмі. Не хачу незнарок пакрыўдзіць працуючых з дзецьмі педагогаў, але праблемы ў выхаваўчай рабоце, халатныя адносіны да выканання службовых абавязкаў з боку асобных выкладчыкаў, трэнерскага саставу ёсць, і іх даволі шмат.

Прывяду адзін сумны выпадак з судовай практыкі. Назначаны трэнерам-выхавацелем спартыўна-аздараўленчага лагера, работнік дзіцяча-юнацкага клуба з Баранавіч, відаць, кіраваўся добрымі намерамі пры правядзенні заняткаў па загартоўцы і прыняццю сонечных ваннаў дзецьмі, але дрэнна аднёсся да выканання ўскладзеных на яго абавязкаў па ахове жыцця і здароўя дзяцей. Гэта трэнер прывёў дзяцей у чэрвені мінулага года на не абсталяваны для купання пляж на возеры, дзе купанне цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі і АСВОДам было забаронена.

Выратавальных сродкаў не было, месца купання не агароджана, глыбіня невядомая, ды і сам пакінуў дзяцей без нагляду, захапіўшыся гульнёй у шахматы. Адзін з хлопчыкаў, Іван К., які пераўзыходзіў іншых дзяцей па фізічных даных, з хуліганскіх прычын пачаў здзекавацца, штурхаць больш слабых на беразе і ў вадзе.

Дзеці пачалі клікаць трэнера, але той ужо вельмі захапіўся шахматнай гульнёй і не звярнуў увагі на крыкі. І падлетак, нягледзячы на слёзныя просьбы дзесяцігадовага Рамана, зацягнуў яго на значную адлегласць ад берага і акунуў з галавой у ваду. Калі Раман усё ж усплыў і, ратуючыся, схапіўся за Івана, той адштурхнуў яго і паплыў да берага. У выніку дзіця, якое не ўмела плаваць, патанула. А трагедыі не здарылася б, калі б трэнер добрасумленна выконваў свае функцыі. Вядома, і непаўналетні, фактычна ўчыніўшы наўмыснае забойства з хуліганскіх прычын, і трэнер, які праявіў халатнасць, асуджаны, але наўрад ці суцешыш гора і пакуты бацькоў і блізкіх.

Напярэдадні летняга аздараўлення дзяцей звяртаю ўвагу трэнерска-выкладчыцкага саставу і бацькоў на неабходнасць захавання дзеючага заканадаўства, нормаў і правілаў, якія рэгулююць работу з дзецьмі, каб падобныя трагедыі не паўтараліся.

**Аляксей ТАРАНАЎ.**
**Прэс-цэнтр Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.**

## ПАДЛЕТКІ ЗАБІЛІ ЖАНЧЫНУ

Напярэдадні выхадных дзён на пустэчы ў адным з раёнаў Магілёва быў знойдзены труп жанчыны прыкладна 40—45 гадоў са шматлікімі пераломамі і чэрапна-мазгавой траўмай. Забітая была поўнасцю распранута. Адзежа ляжала побач з целам. Хаця, па папярэдняй інфармацыі, жанчына не была згвалтавана.

Аператыўна-следчая група ўстанавіла, што забойства ў стане моцнага алкагольнага ап'янення здзейснілі два падлеткі, якія з'яўляюцца вучнямі 9 класа. Аднаго з іх міліцыя ўжо затрымала, а другі знаходзіцца ў вышуку. Абставіны гэтага жудаснага забойства яшчэ трэба будзе высветліць.

## МІЛІЦЫЯНЕР ВЫБІВАЎ ПРЫЗНАННЕ, ЗА ГЭТА І ПАПЛАЦІЎСЯ...

Пракуратура Дрыбінскага раёна Магілёўскай вобласці арыштавала інспектара па прафілактыцы правапарушэнняў раённага аддзялення ўнутраных спраў. Ён абвінавачваецца ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў, якое спалучалася з фізічным насіллем. Іншымі словамі — інспектар спрабаваў выбіць прызнанне з асоб, якія падазраваліся ў крадзяжы. Расследаванне працягваецца, але, зразумела, што кропкі над «і» ў гэтай справе паставіць толькі суд.

**Ілона ІВАНОВА.**

## АРМЕЙСКІ САМАСУД

Абвінаваўчым прыгаворам у выглядзе 2 гадоў і 1 года і 6 месяцаў пазбаўлення волі ўмоўна закончыўся разгляд крымінальнай справы ў адносінах да капітана камандзіра роты аховы в/ч 33933 і прапаршчыка. Іх прызналі вінаватымі ў тым, што 14.02.98 яны выклікалі ў канцылярыю роты малодшага сяржанта А. Барташа і абвінавацілі падначаленага ў тым, што той знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення. Паколькі апошні гэта адмаўляў, сталі збіваць яго, прымусілі выпіць 3 літры вады. А калі Барташ адмовіўся піць ваду, паклалі яго на крэслы і пачалі заліваць яе ў рот праз лейку. У выніку ў хлопца пайшла з рота кроў, і ён страціў прытомнасць.

**Аляксей ТАРАНАЎ.**

*ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА*

## ЗАПЛАЦІ «ПАДАТКІ» — І РВІ СПАКОЙНА

**Рэпрэсіраваная год таму беларуская цяжкаатлетычная зборная, якая аскандалілася на ўвесь свет пасля таго, як амаль увесь яе састаў злавілі на ўжыванні допінгавых прэпаратаў, нарэшце рэабілітавана. Ва ўсіх сэнсах...**

Каб выйсці з міжнароднай «блакады» і трапіць на чэмпіянат Еўропы, які завяршыўся ў мінулыя выхадныя, беларусам давялося заплаціць 8000 долараў ЗША штрафнога «падатку».

У вагавай катэгорыі да 69 кг Сяргей Лаўрэнаў заваяваў для беларускай зборнай сярэбраны і бронзавы медалі, і яшчэ адно «серабро» прынёс камандзе ў рыўку Уладзімір Емяльянаў (105 кг). Павел Бузук (94 кг) заняў 11-е месца, а Аляксандр Пуставы (69 кг) і Леанід Лабачоў (94 кг) — 9-е. Не так ужо і дрэнна.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

*КРАДЗЯЖЫ*

# СІТУАЦЫЯ З КРАДЗЯЖАМІ МАЁМАСЦІ І ГРОШАЙ У БЛІЖЭЙШЫ ЧАС У ЛЕПШЫ БОК НЕ ЗМЕНІЦЦА

**Разбоі, грабяжы, якія суправаджаюцца насіллем, розныя выкраданні з банкаў буйных грашовых сум выклікаюць больш шырокі грамадскі рэзананс, і магчыма таму сродкі масавай інфармацыі стараюцца пастаянна гаварыць пра небяспеку гэтых злачынстваў. А вось крадзяжам увагі ўдзяляецца менш.**

Вядома ж, у агульнай колькасці зарэгістраваных крадзяжоў менавіта кватэрныя крадзяжы заўсёды займалі адно з самых важкіх месцаў. Але калі ў 1992 годзе колькасць такіх злачынстваў складала каля 23 працэнтаў ад агульнай колькасці крадзяжоў, то ў мінулым годзе ўдзельная вага крадзяжоў з кватэр ужо стала складаць каля 34 працэнтаў. Асноўныя спосабы ўчынення крадзяжоў з кватэр не пацярпелі сур'ёзных змен. Тым не менш, усё-такі гаспадары сталі больш асцярожнымі і ключ пад дыванок не кладуць, а ў вёсках, якія блізка размешчаны, напрыклад, ад аўтамагістраляў, таксама стараюцца, пакідаючы дом, дзверы замыкаць на ключ. Але і «дамушнікі» ўжо не разлічваюць на наіўнасць абывацеля. Перад тым як учыніць крадзеж, яны праводзяць больш старанную разведку. Дзейнічаюць не па аднаму. Як і раней, зладзеі пранікаюць у кватэру часцей удзень, з 8 да 17 гадзін, шляхам паслаблення дзвярных засавак (радзей выбівання дзвярэй), падбору ключоў, праз балконныя дзверы, праз фортку.

Вельмі блізкія да кватэрных крадзяжоў крадзяжы з дачных домікаў. Вось адзін з тыповых прыкладаў. У Віцебскі РАУС звярнуўся галоўны інжынер аднаго з сумесных прадпрыемстваў. Ён заявіў, што ў той час, калі ён знаходзіўся на рабоце, хтосьці ўзламаў дзверы ў яго дачным доміку, размешчаным у вёсцы Цяцёркі, і выкраў відэаапаратуру, якая добра была відаць з акна, коштам 70 млн. рублёў, а таксама тысячу долараў ЗША, якія ляжалі прама на стале.

Крадзяжы з дачных домікаў сталі адным з самых балючых пытанняў для іх уладальнікаў і работнікаў міліцыі. Крадзеж бярэцца на кантроль, па ім праводзяцца следчыя мерапрыемствы, аж да засад. Але па гарачых слядах злодзея часцей за ўсё знайсці не ўдаецца. Бо паведамленні аб крадзяжы ў нялетні час паступаюць з тыднёвым, а то і месячным спазненнем. Сляды злачынцы паспяваюць астыць. Рана ці позна ён трапіць у рукі міліцыі, але ўкрадзенае ім ужо не вярнуць.

Вельмі разнастайны дыяпазон аб'ектаў увагі раскрадальнікаў. З найбольш простых, але найбольш кашчунных можна прывесці шматлікія прыклады крадзяжу ікон з цэркваў, блокаў з ліфтаў, пліт з апораў мастоў...

Вельмі прывабнымі з'яўляюцца для зладзеяў розныя саматужныя аб'екты, размешчаныя ў сельскай мясцовасці, на якіх руплівыя гаспадары вядуць нарыхтоўку дарагой таварнай прадукцыі. Практыка паказвае, што варта толькі назапасіць на складзе яе значную колькасць, а пра ўзмацненне аховы не падумаць, злодзей тут як тут. Перыядычна паступаюць паведамленні, напрыклад, аб крадзяжах са зверагаспадарак, якія займаюцца нарыхтоўкай шкурак пушных звяроў. Вось нядаўна ў Маладзечанскім раёне невядомыя, перапілаваўшы металічную рашотку і разбіўшы шыбу, праніклі ў складское памяшканне зверагаспадаркі «Забудова», якое ахоўвалася ведамасным вартаўніком, і выкралі 627 шкурак норкі агульным коштам 1 мільярд рублёў.

Сярод зарэгістраваных крадзяжоў дзяржаўнай маёмасці асаблівую трывогу выклікаюць крадзяжы са слаба ахоўваемых магазінаў. На тэрыторыі рэспублікі знаходзіцца толькі дзяржаўных 21,5 тысячы магазінаў, з іх у сельскай мясцовасці — каля 13 тысяч. Дык вось, крадзяжы з магазінаў у вёсцы інакш як стыхійным бедствам і не назавеш. Зладзееў у магазінах прывабліваюць часцей за ўсё грошы, спіртныя напоі, харчовыя і прамысловыя тавары. Гэтыя магазіны ў большасці размешчаны не ў глыбіні населенага пункта, а ўздоўж аўтатрас і чыгунак. Асаблівы неспакой выклікаюць так званыя серыйныя крадзяжы. Як правіла, яны ўчыняюцца ўстойлівымі злачыннымі групамі. Апошнім часам адна з такіх груп была выкрыта ў Брэсцкай вобласці, удзельнікі якой учынілі звыш двух дзесяткаў крадзяжоў з магазінаў на тэрыторыі Кобрынскага, Жабінкаўскага, Маларыцкага, Бярозаўскага, Драгічынскага, Камянецкага і Брэсцкага раёнаў.

Серыйныя крадзяжы часам, як тарнада, пракочваюцца і па калгасных касах. Даволі доўга дзейнічалі двое «спецыялістаў», былых аднакласнікаў. Адзін жыхар Віцебска, другі — Оршы. З 1995 года яны выкрадалі грошы з сейфаў калгасных кас у розных населеных пунктах Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай і Смаленскай абласцей. 20 сакавіка гэтага года яны былі, нарэшце, блакіраваны і затрыманы. На папярэднім следстве высвятляецца, што яны за гэты час учынілі 84 крадзяжы з калгасных кас. Не так даўно работнікамі абласной мінскай міліцыі была затрымана так званая слуцкая група з 16 чалавек, якая ўчыніла, паводле папярэдніх даных, больш за 30 такіх крадзяжоў.

Не так проста калгасам папярэдзіць і крадзяжы тых жа ядахімікатаў. Камерсанты, атрымаўшы заказ і пачуўшы магчымасць прыбытку ад выгаднай рэалізацыі заказанага тавару, далёка не заўсёды цікавяцца, якім чынам ён аказаўся ў пастаўшчыка. Сапраўдная злачынная стыхія, напрыклад, напаткала ў 1997 годзе Гродзенскую вобласць. У студзені са склада калгаса Маякоўскага Ваўкавыскага раёна было выкрадзена каля 2 тон ядахімікатаў. Затым у красавіку невядомыя з неахоўваемага склада калгаса «Чырвоная зорка» ў вёсцы Капачы Мастоўскага раёна выкралі ядахімікат «дэзарман» на агульную суму каля 157 млн. рублёў. Затым яшчэ ў жніўні і ў кастрычніку з калгасаў Гродзеншчыны былі ўчынены аналагічныя крадзяжы. Урон гаспадаркам быў нанесены каласальны, ён набліжаецца да мільярда рублёў. Усе крадзяжы былі ўчынены, паводле перакания аператыўнікаў, адной і той жа групай выкрадальнікаў. Невядома, колькі б яшчэ крадзяжоў ім удалося ўчыніць, калі б не трапіў у рукі работнікаў беларускай міліцыі адзін са злачынцаў. Ён аказаўся жыхаром суседняй Літвы. Туды і вядуць сляды «спецаў» па ядахімікатах.

Нядаўна ў Гродна з неахоўваемага наваствoранага офіса невядомымі была выкрадзена апаратура коштам каля 100 млн. рублёў шляхам простага падбору ключоў, і такія паведамленні паступаюць у дзяжурныя часці падраздзяленняў міліцыі амаль штодзённа.

Спецыялісты, якія прагназіруюць сітуацыю, звязаную з крадзяжамі маёмасці і грошай, заяўляюць, што ў бліжэйшы час становішча ў лепшы бок рэзка не зменіцца. Таму нельга эканоміць на малым, рызыкуючы страціць значна больш. Прадпрыемствам, гаспадаркам, камерцыйным фірмам і асобным грамадзянам трэба ўсё-такі знаходзіць сродкі на больш надзейную ахову сваёй уласнасці.

**Васіль КУРЛОВІЧ,**
**падпалкоўнік міліцыі.**

## ЧАСАМ ДЗЕЦІ СТАНОВЯЦЦА АХВЯРАМІ БАЦЬКОЎ...

У Гомельскім раёне супрацоўнікамі міліцыі арыштаваны касір-кантралёр аддзялення банка, які свой бізнес пабудаваў, здымаючы дадатковы падатак з вадзіцеляў транзітнага транспарту на мытным пераходзе «Н. Гута». І хоць узятая дадаткова з кожнага вадзіцеля сума была нязначнай — 168 тысяч рублёў, — улічваючы той факт, што пераход перасякала шмат машын, набіраецца даволі значная сума грошай. У любым выпадку, пры вобыску асабістага аўтамабіля касіра аператыўнікамі канфіскавана 1300 долараў ЗША.

А ў Гродне міліцыяй узбуджана крымінальная справа супраць дырэктара таварыства з абмежаванай адказнасцю. Дырэктар аказаўся настолькі «падкаваным» у банкаўскім бізнесе, што змог здзейсніць крадзеж пад выглядам крэдыту ў АКБ «Комплексбанк». Банкаўскую ўстанову кіраўнік ТАА змог «надуць» на 410 мільёнаў рублёў.

У Нароўлі ахвярай махляркі стаў завод будаўнічых дэталяў. Жанчына, якая змагла ад імя ЗАТ з Масквы заключыць дагавор з прадпрыемствам, выкрала матэрыялы, унесеныя ў дакумент. Усяго сума кантракта склала каля 104 мільёнаў рублёў. Міліцыяй яна арыштавана.

А вось апошні выпадак закончыўся трагічна для 35-гадовага жыхара Гродна, які сам стаў пацярпелым з-за сваёй жа аферы, а ахвярай — яго сын-першакласнік. Школьнік, які гуляў з «цацкай» бацькі — пісталетам замежнай вытворчасці — выпадкова раніў сябе ў галаву. Як аказалася, мужчына незаконна ўвёз пісталет з ЗША. Бацька затрыманы, а сын знаходзіцца ў бальніцы.

**Ігар ГРЫШЫН.**

*ВІНШАВАННІ*

*Дзеці і ўнукі віншуюць матулю і бабулю **Леанарду Іванаўну БАГДАНОВІЧ** з 55-годдзем, а тату і дзядулю **Пятра Іосіфавіча БАГДАНОВІЧА** — з 60-годдзем. Моцнага вам здароўя, шчасця і дабрабыту.*

**Дзеці, унукі,** г. Мінск.

***Марыю Антонаўну ТРУБАЧ, Валянціна Іосіфавіча і Аляксандра Валянцінавіча ГАЎЛУШАЎ** з в. Александрыно Лагойскага раёна віншуем з днём нараджэння. Няхай вашы гады будуць доўгімі, здароўе — моцным, жыццё — радасным.*

**Любячыя вас Стальмаховы.**

Згубленае пасведчанне інваліда серыі ОВ № 0018911, выдадзенае на імя Шупо Мікалая Уладзіміравіча лічыць несапраўдным.

# ДЗЕЦІ ЗА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ. А ВЫ, ДАРОСЛЫЯ?..

**Не было такога дня, пачынаючы з сярэдзіны красавіка, каб паштавік не прыносіў у аргкамітэт па правядзенню конкурсу сачыненняў вучнёўскія лісты.**

«Прачытаўшы ў нумары «Звязды» за 7 красавіка Ваш зварот да школьнікаў, вырашылі і мы паспрабаваць свае сілы ў конкурсе. І каб вы бачылі, якія агеньчыкі натхнення гараць у дзіцячых вачах! — такімі словамі прадставіла творчыя работы сваіх выхаванцаў настаўніца Міцкавіцкай базавай школы Смаргонскага раёна М. С. Лось. — Гэта толькі «першыя ластаўкі», а працяг яшчэ будзе. Хай гэтыя творы крыху наіўныя, бо пісалі ж дзеці, але колькі бясконцай любові да нашай мовы, да роднага краю ў іх радках».

Мы ўдзячныя за цёплыя словы і трывогу за лёс роднай мовы, якія былі выказаны ў вершах, пяцікласніку-азербайджаніну **Джэйхун ХАЛІЛУ**, шасцікласніку **Андрэю ДЗЕНІСЮКУ**, сямікласнікам **Вользе ЛОСЬ** і **Дзянісу КАРНЕЮ.** Нельга не пагадзіцца з выказваннямі са «Звароту да беларусаў» шасцікласніцы Наташы Рабцэвіч: «Некаторыя беларусы, на жаль, лічаць, што наша мова грубая, непрыгожая... Ды гэта ж няпраўда! Як горка чуць зняважлівыя словы ў адрас беларускай мовы! Я нават не ведаю, як назваць такіх людзей...»

Таксама першымі свае думкі выклалі на паперы: **Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ** (Баранавічы), **Валянціна ФЯНЬКО** (Глыбокае), **Вольга РАКЕЦКАЯ** (Крывое Сяло Вілейскага р-на), **Алёна СТАНКЕВІЧ** (Паляцкішкі Воранаўскага р-на), **Ірына БАЛЦЭВІЧ** (Корань Мінскага р-на), **Вераніка КАМАРОЎСКАЯ** (Орша), **Марына БАРЫСЕНКА** (Калінкавічы), **Таццяна ЗАХАРЭЎСКАЯ і яшчэ два вучні, якія забылі напісаць свае прозвішчы** (Солы Смаргонскага р-на).

Перачытваючы першыя трывожныя і поўныя любові да роднай мовы дзіцячыя лісты, прыходзіш да думкі: як сярод нас, дарослых, яшчэ многа злосных і несправядлівых, цёмных і неадукаваных, абыякавых, зняверaных і проста падманутых. Як можна было адысці ад агульначалавечых паняццяў, здрадзіць сваёй зямлі, сваім продкам? Ужо надышоў такі час, што аб надыходзячай нацыянальнай смерці неабходна ва ўвесь голас крычаць, як «крычаць» у сваіх лістах нашы дзеці. Паслухайма ўрыўкі з іх лістоў.

*Мова родная — наша багацце,*
*Мова родная — наша шчасце,*
*Мова родная — наша каханне,*
*Мова родная — гэта світанне...*

(**Валянціна ФЯНЬКО.** 11 клас. Глыбокае.)

*Дык хіба ж можа такая мова адысці ў небыццё, адмерці, згінуць праз нашу нядбайнасць ці па чыёйсьці злой волі? Ніколі. А зласліўцам спакойна скажу: «Дарэмна стараецеся! Як не спыніць узыходу яснага сонца — так і не стрымаць адраджэння нашае мовы...»*

(**Марына БАРЫСЕНКА.** 8 клас. Калінкавічы.)

*Дзесьці на свеце*
*Ёсць мова такая,*
*Якую, паверце,*
*Народ не зважае...*

(**Алёна ДЗЯМЧУК.** 8 клас. Бобрык Пінскага р-на).

*На жаль, і ў гэтай школе ў пяты клас я пайшла ў рускі. Не знайшлося настаўнікаў, якія матэматыку, гісторыю ды іншыя прадметы выкладалі б на беларускай мове. Але няўжо ж так цяжка настаўнікам гаварыць па-беларуску?.*

(**Вераніка КАМАРОЎСКАЯ**. 5 клас. Орша.)

*Людзі! Напрыканцы тысячагоддзя хочацца верыць, што двухтысячны год будзе добрым пачаткам для развіцця беларускай мовы. І гэта залежыць толькі ад нас, беларусаў. Жыве мова — жыве народ, жыве памяць продкаў. Не будзе мовы — загіне чалавек. Таму светлая будучыня залежыць толькі ад нас.*

(**Святлана СВІЛА.** 10 клас. Астравец.)

Якія нечаканыя і ў той жа час простыя і зразумелыя перакананні знайшла вучаніца 9 класа з вёскі Гарадок Маладзечанскага раёна **Іна КЕБІЧ:** *«...недарэчна выглядала б, каб хто над дамавінай свайго роднага пачаў галасіць, прыгаворваць не на сваёй, а на чужой мове; або каб на вяселлі маладым пачалі спяваць чужыя, незразумелыя песні. А вось глянем яшчэ хоць бы на крылатыя стварэнні: ці ж не смешна б нам паказалася, каб салавейка пачаў кукарэкаць, як певень, а певень пачаў кукаваць, як зязюля».*

Можна зразумець і вучаніцу з Лужаснянскай гімназіі-інтэрната, якая ў канцы цудоўнага сачынення-роздуму «Не! Ніколі! Толькі не так!» зрабіла прыпіску: «Ліст прашу не друкаваць!»

Для нас важны і патрэбны ліст кожнага, бо найперш у іх мы бачым сваіх аднадумцаў, сапраўдных патрыётаў і змагароў за беларускасць. Мы ўдзячныя ўсім і Вам, шаноўныя Ганна Сцепулёнак з мястэчка Койданава, за верш Вашага сына-васьмікласніка Віталя. Мы парадаваліся за таленавіты твор пра Хрыстова нараджэнне і ведаем, што Віталь вырасце сапраўдным беларусам, бо жыве ў суладдзі з Богам і народнымі традыцыямі. Аб гэтым з любасцю клапоцяцца бацькі.

Нізкі паклон вам, настаўнікі і бацькі. Дзякуючы вам расце маладая надзея свабоднай Беларусі. Але ці хутка пачуюць трывогу за лёс роднай мовы тыя, хто адрокся ад яе?

Конкурс сачыненняў-лістоў, у якіх мы просім дзяцей знайсці неабходныя перакананні ў абарону беларускай мовы, працягваецца. Дасылайце нам свае допісы пад умоўнай назвай «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай...» на ранейшы адрас: ТБШ. Някрасава, 5а, Мінск. 220040.

**Алесь ЛОЗКА,**
**віцэ-прэзідэнт Таварыства беларускай школы, старшыня аргкамітэта конкурсу.**

# Чаму мы прапускаем радыяцыю на наш стол?

**Пасля чарнобыльскай аварыі прайшло ўсяго 12 гадоў, якіх «хапіла» народу, каб забыцца пра небяспеку радыяцыйнага забруджвання глебы: ва ўсякім разе, медыкі вымушаны сёння канстатаваць, што колькасць жадаючых праверыць перад ужываннем у ежу лясныя дары ці прадукцыю са свайго агарода пачала змяншацца. Затое павялічылася колькасць людзей, якія накіроўваюцца па грыбы, ягады ці на паляванне ў забруджаныя радыенуклідамі небяспечныя лясныя масівы...**

Як паведамілі «Звяздзе» ў аддзеле радыяцыйнай гігіены Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, са студзеня гэтага года ў іх лабараторыі было даследавана звыш 500 узораў прадукцыі. З іх з перавышэннем, згодна з дзеючым нарматывам, дапушчальнага ўзроўню ўтрымання радыенуклідаў цэзію было выяўлена 6 проб. «Засвяціліся» на кантролі сушаныя і кансерваваныя грыбы, кансерваваныя прадукты з лясных ягад і мяса дзічыны, дастаўленыя з Мазырскага, Лунінецкага, Валожынскага і Рэчыцкага раёнаў.

Дарэчы, даследуемае мяса дзічыны ў большасці выпадкаў аказваецца забруджаным радыенуклідамі звыш устаноўленых велічынь, а таму спецыялісты раяць усяму насельніцтву не забывацца на радыеметрычны кантроль. Тое ж датычыцца і лясной прадукцыі, якая ў радыяцыйным плане таксама небяспечная, але асабліва, па словах медыкаў, рызыкуюць усё ж тыя, хто набывае прадукты харчавання ў забароненых для гандлю месцах.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*УСЁ ПРА ЎСЁ*

### Выратавальная гумка

У маленькім англійскім гарнізоне на востраве Сент-Кільд галоўным ворагам салдатаў сталі мышы. Налёты мышэй на склады з правізіяй былі настолькі спусташальнымі, што інтэнданту прыйшлося скарачаць рацыён салдацкага харчавання. Але аднойчы адбыўся цуд. Мышы дзесьці знайшлі жавальную гумку і, лянiва поўзаючы, меланхалічна жавалі незвычайную ежу. Ад іх агрэсіі не засталося і следу. Нарэшце на востраве ўсталяваўся спакой. Толькі салдатам паболела абавязкаў — раскідваць па востраву жавальную рызінку.

### «Медыцынская картка» памерам з манету

У хуткім часе швейцарская фірма «Прэсматэк» збіраецца наладзіць выпуск мікрасхем памерам з невялікую манету для запісу асноўных медыцынскіх даных пра чалавека: група крыві, алергічныя рэакцыі, неўспрыманне некаторых лекаў, хранічныя захворванні і інш. Усе даныя будуць запісаныя на пяці асноўных мовах свету. Насіць мікрасхему можна будзе на ланцужку, бранзалеце ці прыклейваць да адваротнага боку гадзінніка. Пры неабходнасці ўрачы «хуткай дапамогі» прачытаюць гэту «медыцынскую картку» пры дапамозе партатыўнага прыбора.

**По матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

*36,6°*

# ХУДА — НЕ БЕДНА

**Для лячэння атлусцення і яго прафілактыкі могуць быць выкарыстаны лекавыя травы. У асноўным тыя з іх, якія багатыя вітамінамі (асабліва C і $B_6$, што стымулююць акісляльныя працэсы ў тлушчавай тканцы), а таксама ёдам, неабходным для нармальнага функцыянавання шчытападобнай залозы, якая адыгрывае важную ролю ў абменных працэсах. Дозы сухіх раслін — у грамах.**

***Збор 1. Кукурузныя слупкі з рыльцамі — 50.***

*Крушына ломкая, кара — 20.*
*Крываўнік звыч., лісце — 20.*
*Ядловец звыч., плады — 10.*

2 сталовыя лыжкі збору заліць у тэрмасе 0,5 літра кіпеню. Настояць 10—12 гадзін, працадзіць і прымаць па 150 мілілітраў 3 разы на дзень за 20—25 хвілін да яды пры атлусценні.

***Збор 2. Бузіна чорная, кветкі — 20.***

*Фенхель звычайны, плады — 20.*
*Рамонак аптэчны, кветкі — 20.*
*Ліпа драбналістая, кветкі — 20.*
*Мята перачная, лісце — 20.*

Узяць 3 сталовыя лыжкі сухой здробненай сумесі, пакласці ў невялікую эмаліраваную каструлю, заліць 3 шклянкамі кіпеню, закрыць накрыўкай, затым паставіць у вялікую каструлю з кіпячай вадой. Вытрымаць 15 хвілін, перыядычна памешваючы, затым пакінуць для павольнага ахаладжэння на 30—45 хвілін, пасля чаго працадзіць. Прымаць настой па 1 шклянцы 2-3 разы на дзень на працягу 8—10 тыдняў пры атлусценні. Стымулюе абмен рэчываў і паляпшае страваванне.

***Збор 3. Крушына ломкая, кара — 40.***

*Дзьмухавец лекавы, корань — 15.*
*Пятрушка агародная, плады — 15.*
*Фенхель звычайны, плады — 15.*
*Мята перачная, лісце — 15.*

2 сталовыя лыжкі збору заліць 2 шклянкамі крутога кіпеню, настояць і выпіць увесь настой раніцай да яды.

**«Тайная власть».**

Ірына ПАЛЯНСКАЯ:

*СУСТРЭЧА Ў СТЫЛІ «РЭТРА»*

# «Тады яшчэ не існавала самога слова «эстрада»

**Так, паняцце эстраднай песні з'явілася значна пазней, чым лёс зрабіў Ірыну Палянскую вядомай спявачкай. Тады проста ствараліся песні — добрыя, пяшчотныя, гераічныя, жартаўлівыя. Былі артысты, якія іх выконвалі. Некаторыя станавіліся вялікімі зоркамі, як Клаўдзія Шульжэнка. Некаторых ведала публіка, і на іх канцэртах заўсёды былі аншлагі. Як у Ірыны Палянскай, якая з 1956 года працавала ў Беларускай філармоніі. Міхаіл Фінберг, напрыклад, з дзяцінства памятае яе песню «Если любишь—скажи прямо». У 50—60-х Палянская была самай папулярнай беларускай спявачкай. Потым стала вучыць іншых. Між іншым, менавіта Ірыну Палянскую называе сваім першым і адзіным педагогам Алёна Свірыдава.**



**Днямі былая зорка адзначыла 80-годдзе. Гэта мог быць адзін з тых юбілеяў, што артыстка перажыла, забытая ў сваёй краіне, невядомая для цяперашняй публікі. У яе няма званняў, і ўсе яе святы адбываюцца ціха ў сціплай кватэры. Але такую несправядлівасць вырашылі выправіць арганізатары фестывалю «Залаты шлягер». Такім чынам, у гонар Ірыны Палянскай, якая і зараз застаецца шыкоўнай жанчынай са своеасаблівым шармам, у канцэртнай зале «Мінск» 5 мая адбыўся вечар з удзелам сяброў і шматлікіх вучняў спявачкі.**

*— Ірына Аляксандраўна, скажыце, калі ласка, чаму так атрымалася, што песень з вашым голасам нідзе не засталося ў запісах?*

— Калі мы працавалі, то перш за ўсё думалі пра канцэрты перад публікай, пра гастролі. Ні пра якія запісы тады размоў не было. Гэта зараз спявак спачатку запісвае песню, «запускае» яе, каб нейкім чынам прыцягнуць увагу слухачоў да сябе. У мой час публіка заваёўвалася толькі на канцэртах. Трэба было шмат праехаць, каб займець сваю публіку. На шчасце, у мяне яна была. І мяне больш нічога не хвалявала, асабліва тое, што майго голасу не застанецца ў гісторыі. Нічога. Затое зараз блізкія мне людзі вырашылі выправіць становішча, і днямі я ўпершыню за 80 гадоў буду запісваць на радыё некалькі сваіх песень. Канешне, голас ужо не той, але кажуць, што яшчэ ёсць і я змагу. Хвалююся вельмі.

*— Вы памятаеце, дзе і калі адбыўся ваш першы канцэрт?*

— Першы вялікі і самастойны мой канцэрт адбыўся ў Іжэўску. Да гэтага я працавала з джазам у Ленінградзе, яшчэ да вайны. Джазам тады называлі вялікі калектыў музыкантаў, аркестр, які акампаніраваў салістам. Сёння слова «джаз» мае зусім іншы сэнс — гэта напрамак музыкі. Там, у Іжэўску, у мяне з'явіўся «свой кампазітар» Разнякоўскі, ён і зрабіў з мяне спявачку.

*— Якія песні вы выбіралі?*

— Я магу зараз гаварыць з гонарам, што ў маім рэпертуары не было ніводнай песні, якая б не была напоўнена сэнсам. Спявала лірычныя песні, гераічныя, вясёлыя. Была песня «Падпісаны будзе мір», якую я спела толькі адзін раз. Бо сапраўды вельмі хутка скончылася вайна.

*— Ці былі ў вас любімыя беларускія песні?*

— Я не так многа іх спявала, але першая выканала цыкл песень Яўгена Глебава «Помню». Вельмі любіла — і звычайна пачынала свае канцэрты імі. Па сутнасці, менавіта тады беларускі слухач успрыняў першыя эстрадныя творы. Успрынялі добра. Дарэчы, гэты цыкл заўсёды і на любых канцэртах уражваў.

*— Скажыце, з кім з «легендаў» вам давялося сустрэцца?*

— У кожнага артыста быў свой гастрольны маршрут. Часам, некаторыя перасякаліся. Мне пашчасціла аднойчы сутыкнуцца з аркестрам вялікага і цяпер славутага майстра Эдзі Рознера. Ён пачуў мае песні, запрасіў у канцэрт. Так адну песню я спела разам з гэтым аркестрам.

*— Вас некалі называлі «беларускай Шульжэнка»...*

— Так, пачатак савецкай эстрады быў з асаблівым шармам. У многім з-за непаўторнасці Шульжэнка. І калі кагосьці параўноўвалі з ёю, гэта лічылася самай вялікай пахвалой. А ў мяне, дарэчы, была ў рэпертуары песня, якую выконвала Шульжэнка. Яна тады плаціла кампазітарам, каб не аддавалі песні яшчэ каму. Вось скончыўся для яе тэрмін жыцця песні Уладзімірава, Шульжэнка яе перастала спяваць. Тады ён дазволіў выконваць яе мне. А калі пачуў, то быў вельмі здзіўлены, што менавіта я здолела перадаць пачуццё, якое ён у яе ўклаў. І Клаўдзія Шульжэнка, пачуўшы яе ў маім выкананні, гаварыла: «Як па-рознаму можна трактаваць адзін і той жа твор».

*— Як вы падбіралі тады сабе канцэртную вопратку?*

— О, гэта быў вялікі клопат. Часам — у камісійных крамах знаходзіліся рэчы, якія дапамагалі стварыць пэўны вобраз. Бывала, у куфэрках састарэлых жанчын захоўваліся шыкоўныя ўборы. Я імкнулася апранацца так, каб ніхто не мог сказаць: у мяне ёсць такая ж сукенка. Для артыста, на мой погляд, вельмі важна, якім ён з'яўляецца перад людзьмі. Каб, толькі глянуўшы на яго, маглі сказаць: «Артыст».

*— З якім пачуццём вы рыхтаваліся да свайго юбілейнага канцэрта?*

— Я быццам бы перажывала другую маладосць. Даводзіцца сустракацца з людзьмі, з якімі ўпершыню калісьці пабачылася ў паездках. Я нядаўна перанесла інфаркт. А тая цеплыня, якую адчуваю з боку людзей, якія пра мяне ўспомнілі, ды яшчэ вырашылі ізноў вывесці на сцэну, — падараваць мне сцэну — вяртае да жыцця. Зараз я не думаю, што такое ўзрост...

**Ларыса ЦІМОШЫК.**
**Фота Віт. АМІНАВА.**

## Віншаванні

*Віншуем з 70-гадовым юбілеем* **Віктара Іосіфавіча ПІСКУНА** *з в. Баяры Карэліцкага раёна. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці і ўсяго самага найлепшага.*

**Жонка, дочкі, зяці і ўнукі.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння* **Анатоля ТРАЦЦЯКОВА** *з в. Голацк. Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе.*

**Бацькі, Андрэй.**

***Таццяне Аляксандраўне ЖЛОБІЧ*** *з в. Красны Дар Чэрвеньскага раёна:*

З днём нараджэння вітаю,
Усяго найлепшага жадаю.
Падобна Вакулу чорта сядлай,
Дзядулю роднага не забывай.

**Кулеш Ул. П.,**
*в. Турын Пухавіцкага раёна.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79.* ***E-mail:*** *daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 87.610. Індэкс 63850.
Зак. № 2429.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12